

фота REX/ProMedia

*Беларускі дэсантнік есьць жабу — паказальныя выступленьні, Дзень дэсантніка, жнівень*


# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №21 (140) 6 ВЕРАСЬНЯ 1999г.


## ЯК ЗАЧЫНЯЛІ РАДЫЁ 101,2 FM

Тры гады таму спыніла сваё існаваньне ў эфіры Радыё 101,2 FM. Людзі, якія рабілі гэты праект, стварылі прэцэдэнт у гісторыі Беларусі — цалкам беларуская, незалежная, прафэсійная прастора. Нябачная, але чутная мадэль Беларусі, якая «мусіць быць».

Часам кажуць, што гэтае Радыё не маглі не зачыніць, бо яно «апераджала час». Насамрэч, яно падштурхнула час. Вяшчаньня няма, але праект ня спынены. Ні фактычна, ні юрыдычна. Праект падзяліўся на драбнейшыя, якія дзейнічаюць паводле заяўленых і сьцьверджаных Радыё 101,2 прынцыпаў. Пэрыяд невяшчаньня можна назваць «стажам» для «стоадзіншчыкаў», псыхалягічным і прафэсійным трэнінгам. Ніхто не сумняваецца ў тым, што праект толькі прыпынены і мусіць аднавіцца на больш высокім узроўні.

Між тым, споўніўся ўжо трэці год, як радыё не гучыць. З гэтай нагоды карэспандэнт «Нашай Нівы» Севярын Квяткоўскі сустрэўся з дырэктарам Радыё 101,2 FM Зьмітром Новікавым.

Чытайце на с.3.

зь Беларусі за суботу й нядзелю

### Паказальныя выступы ў Баравой

У Баравой пад Менскам у нядзелю прайшлі паказальныя выступленьні і авіяшоў з нагоды 65-годзьдзя ўтварэньня нацыянальнага авіяклюбу.

### У Лашы разьбілі помнік Карскім

У вёсцы Лаша Гарадзенскага раёну на мясцовых могілках нехта разьбіў на кавалкі чыгунны помнік, усталяваны ў міжваенны час Іванам Карскім — дзядзькам акадэміка Яўхіма Карскага, аўтара «Беларусаў». Помнік меў выразныя ўніяцкія рысы. На прымацаванай шыльдзе былі пазначаныя прозьвішчы ўсіх Карскіх, пахаваных у тутэйшай зямлі. Краязнаўца Апанас Цыхун лічыць, што гэта сатаністы прылажыліся. Сп. Цыхун падрыхтаваў быў мэдальён Івана Карскага, знанага фальклярыста, каб прымацаваць на магіле апошняга, аднак цяпер вагаецца — ці ня пойдзе на глум і гэты знак? Ён жа на могілках выявіў яшчэ адну закінутую магілу сваяка акадэміка Яўхіма Карскага. Варта тут прыгадаць, што пару гадоў таму ў Лашы зачынілі музэй акадэміка.

З Горадні — Антон Лабовіч

### Маўчы і дыш

У пятніцу ў Менску пачаліся перамовы паміж прадстаўнікамі Лукашэнкі і апазыцыі. Тэмаю былі тэлебачаньне й прэса. Апазыцыя патрабавала часу на тэлебачаньні. АБСЭ дабівалася, каб арганізавалі тэледэбаты. Лукашэнкаў жа прадстаўнік Сазонаў нічога не дабіваўся — сядзеў, маўчаў, ветліва пасьміхаўся і абяцаў разгледзець прапановы. Дзіўная пазыцыя апазыцыі — яна не патрабуе, каб у краіне кожнаму было дазволена ствараць радыё й ТВ, не патрабуе аднавіць Радыё 101,2, а вымагае міфічнага часу на БТ. Былыя Лукашэнкам, мы далі б ёй гэты час. Хай нагаворацца адзін перад адным.

### Бойка пад Воршай з нунчакамі

Учора на Крапівенскім полі прайшоў традыцыйны фэстываль на ўгодкі бітвы пад Воршай. На сьвята нечакана прыехалі 60 хлопцаў з суполкі «Край» — той, што прайшла шэсьцем з паходнямі ў Горадні ў красавіку. Яны правялі паказальныя рукапашныя баі і бойкі з нунчакамі. Гэта было цікавей, чым рыцарскія баі.

З Крапівенскага поля — Андрэй Мялешка

## ЗЬ БЕЛАСТОКУ Й ВІЛЬНІ НА БЕЛАРУСЬ БУДУЦЬ ВЯШЧАЦЬ НОВЫЯ РАДЫЁ




У канцы жніўня польская Рада радыёвяшчаньня і тэлебачаньня выдала суполцы «Рацыя», галоўным удзельнікам якой зьяўляецца Беларускі саюз у Польшчы, канцэсію на выпуск радыёперадачаў на звышкароткіх і кароткіх хвалях.

Гэтай падзеі папярэднічала нечакана вострая дыскусія ў польскім беларускім асяродзьдзі. Супраць новай радыёстанцыі, якая, адразу было ясна, будзе вяшчаць не толькі на Беласточчыну, але й на Беларусь, выступілі пісьменьнік Сакрат Яновіч, які жыве ў Крынках, і мастак Лявон Тарасэвіч з Гарадку, два найбольш вядомыя ў польскім асяродзьдзі беларускія інтэлектуалы. Якія былі прычыны іх пратэсту? Юўген Міраповіч у апошняй беластоцкай «Ніве» сьцьвярджае, што рэч проста ў асабістых амбіцыях і перанясеньні прыватных няпрыязяў (да Юўгена Вапы і Алега Латышонка, галоўных арганізатараў радыё «Рацыя») на грамадзкую справу. Ясна, што публічныя аргумэнты Яновіча й Тарасэвіча былі іншымі. Сакрат Яновіч апэляваў да інтарэсаў дзяржавы — быццам бы беларускай. Паводле яго, беларускае радыё ў Беластоку будзе мацаваць рэжым Лукашэнкі, бо той знойдзе ў ім публічнага ворага і стане казаць: «Вось, палякі вядуць сваю прапаганду» — і што ня трэба беларускі рэжым дражніць. На выступленьні Яновіча й Тарасэвіча ў «Gazecie Wyborczej» адгукнуліся салідарніцкая «Gazeta Współczesna» і лібэральны «Kurier Poranny».

Абедзьве газэты чарговую дыскусію ў беларускім асяродку ацэньвалі з пункту гледжаньня польскай «рацыі стану», то бок дзяржаўнага інтарэсу. «Kurier» падкрэсьліў, што польская рацыя стану патрабуе, каб праваслаўны люд усходняй Беласточчыны як найхутчэй ператвараўся з сёньняшняй протаэтнічнай масы, ласай на папулісцкую дэмагогію, у частку беларускага народу, сьвядомага сваёй ролі сярод іншых эўрапейскіх народаў. І таму, маўляў, стварэньне добрага беларускага радыё на Беласточчыне карыснае для польскага дзяржаўнага інтарэсу.

Працяг на старонцы 4.

## «Балтыйскія хвалі» атрымалі ліцэнзію

*На мінулым тыдні беларускае радыё «Балтыйскія хвалі» нарэшце атрымала ў Камісіі радыё і тэлебачаньня ліцэнзію на вяшчаньне. Чацьвёра заснавальнікаў — літоўцы на чале з дэпутатам Сэйму Р.Плейкісом, а чацьвёра — нашы, зь Беларускага Інфармацыйнага Цэнтру. Справа з гэтай ліцэнзіяй цягнецца яшчэ зь вясны, пра што мы ня раз пісалі. То літоўцы баяліся, што нацэленае на Беларусь радыё падарве добрыя дачыненьні з суседняй краінай, то пасол РБ У.Гаркун хадзіў паходы ў літоўскую прэзыдэнтуру, каб «прэсечь», а то нават Лукашэнка раздругі заявіў, што ён ужо «прэсёк». Ажно Літве, відаць, свабода слова даражэйшая за нелегітымнага суседа, і таму вынік ёсьць. Мяркуецца, што радыё пачне працу з новага году, будзе вяшчаць на сярэдніх хвалях. Праграма складаецца з уласных інфармацыйных перадачаў, а таксама з рэтрансьляцыі беларускага Радыё Свабода, беларускай праграмы польскага Радыё-5 і сёе-тага яшчэ. Такім чынам, новае радыё прапануе слухачу («Балтыйскія хвалі» будзе добра чуваць у Менску) пайнавартасны ранішні і вечаровы інфармацыйны эфір — без цэнзуры.*

## Сэнсацыйная знаходка ў Кракаўскім музэі

Тацяна ГАРАНСКАЯ

Унікальная выява беларускага Заслаўя адшуканая ў зборах Нацыянальнага музэю ў Кракаве. Гэта каляровая панарама горада, датаваная 1859-м годам. Зразумела, што тады яшчэ не было чыгункі і добра вядомай менчукам станцыі «Беларусь». Затое цяпер мы ня знойдзем у Заслаўі тых фантастычных сабораў і палацаў, якія ёсьць на старажытным малюнку.

Існуе няслушнае меркаваньне, што Заслаўе толькі аднойчы «засьвяцілася» ў нацыянальнай гісторыі у канцы X ст., калі сюды на сталае жыхарства прыбылі полацкая княжна Рагнеда з сынам Ізяславам. Насамрэч, мінуўшчына гораду багатая. Вось толькі доказы гэтага панішчаныя па ўсім сьвеце.

Перад вайной заслаўскія памяткі ў сваёй варшаўскай рэзыдэнцыі зьбіраў спадкаемца апошніх уладальнікаў Заслаўя Аляксандар Пшэзьдзецкі. У верасьні 1939-га ў рэзыдэнцыю трапляе нямецкая бомба, і калекцыя гіне. Яшчэ адна немалая частка збораў Пшэзьдзецкіх згарэла пад час Варшаўскага паўстаньня. Сярод страчанага тады — увесь архіў роду разам зь перапіскаю Яна Глябовіча і каралевы Боны, Барбары Радзівіл...





Лявон Баратынскі, Панарама Заслаўя, 1859

Ужо ў мірны час са схованаў Нацыянальнае дзяржаўнае бібліятэкі Беларусі прапала большасьць матэрыялаў пра Заслаўе, зьмешчаных у каталёгу аддзелу рэдкай кнігі. Напрыклад, каштоўныя інвэнтары з 1753 г. (на іх спасылаецца ў сваіх публікацыях гісторык Д.Даўгяла). З аддзелу рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўнівэрсытэту прапаў інвэнтар 1760 году (на яго спасылаецца Э.Ляўцявічус у манаграфіі «Папера ў Літве XV—XVIII ст.»). Зьнік цэлы шэраг заслаўскіх матэрыялаў з навуковага аддзелу бібліятэкі Беларускага ўнівэрсытэту.

І вось, пасьля ўсіх гэтых стратаў, грандыёзная знаходка. Пад час працы ў польскіх зборах-запасьніках я натыкаюся на тэстамэнт апошняга ўладальніка Заслаўя, і некалькі дагэтуль невядомых інвэнтароў розных часоў, і гербоўнік роду Глябовічаў, і архіў слыннага для Беларусі дойліда Карла Спампані, які прыехаў ў Заслаўе на запрашэньне Пшэзьдзецкіх і выканаў трыццаць праектаў магнацкіх рэзыдэнцыяў у ваколіцах Менску, і шмат чаго яшчэ. Аднак асаблівай увагі заслугоўвае «Панарама Заслаўя». Яна выкананая ў зьмяшанай тэхніцы: аловак, акварэль, пастэль — і мае ў даўжыню 43 см. Лявон Баратынскі пісаў свой твор на замову альбо Чартарыйскіх, якім належала траціна землеў у Заслаўі і ваколіцах, альбо Пшэзьдзецкіх, ва ўладаньне якіх у 1753 годзе патрапіў амаль увесь горад.

Хто ж такі Лявон Баратынскі, чый размашысты подпіс мы бачым у ніжнім правым куце «Панарамы»? Пад гучным імем Караля Эміля альбо Эміля Эдмунда Корака Баратынскага (ён жа Леон), жыў і працаваў Эміль Юркевіч, які нарадзіўся ў 1810 годзе пад Кракавам, а памёр у 1876 годзе ў Парыжы, прафэсар Фляранцыйскае Акадэміі, удзельнік выставаў у Парыскім салёне, знаёмец Міцкевіча.

Галоўная ж сэнсацыйнасьць знаходкі ў тым, што, як вынікае з малюнку самага вядомага мастака польскай эміграцыі, у Заслаўі было больш манумэнтальных пабудоваў, чым было нам ведама дасюль, прычым больш амаль на палову. Што зь імі сталася? У які момант гэтыя храмы на далёкім узгорку былі зруйнаваныя? Чаму так хутка сьцерлася памяць пра іх? Чарговая загадка нядаўняй беларускай гісторыі. Ці былі яшчэ творы Баратынскага, прысьвечаныя Беларусі?

Большасьць культурных здабыткаў, адшуканых у архівах за апошнія 10 гадоў, будзе экспанавацца ў наступным годзе на выставе да 1000-х угодкаў спачыну заснавальніцы гораду, княжны Рагнеды. «Панарама Заслаўя» будзе прадстаўленая фотаздымкамі і мастацкай вэрсіяй жывапісца Віктара Маркаўца. ■

лісты ў рэдакцыю

## Заасфальтавалі брук на Жыдоўскай

*Сёньня давялося стаць сьведкам зьнішчэньня кавалку брукаванай вуліцы, напэўна адзінага, які захаваўся ў нашым горадзе да гэтага часу — на былой вуліцы Жыдоўскай (пазьней нейкія КАЛЕКІ на галаву назавуць яе КАЛЕКтарнай). Яшчэ год таму тут, на скрыжаваньні яе з Рымарскай можна было пабачыць куток старога Менску — стаялі драўляныя дамы адмысловай архітэктуры, зьбягала ў бок Нямігі брукаваная вуліца, шумелі высокія дрэвы. Зараз ад усяго гэтага нічога не засталося — дамы зруйнавалі, дрэвы высеклі, кругом ляжыць асфальт. Тое самае робіцца й за Менскам. Некалі на станцыі Аляхновічы, у напрамку Маладэчна, стаяў будынак вакзалу, адзіны такога кшталту, які захаваўся ў Беларусі (калі давяць веры газэтам). Вакзал гэты ў свой час бачыў Максіма Багдановіча. Цяпер на тым месцы, дзе ён стаяў, растуць некалькі кволых дрэўцаў. Да нядаўняга часу на беразе Сьвіслачы каля Палацу спорту месьціўся «помнік прамысловай архітэктуры пачатку XX ст.» (зноў жа, калі верыць афіцыйным крыніцам) — будынак былой бісквітнай фабрыкі. Зараз тут роўнае поле. Такія вось думкі могуць выклікаць трыццаць мэтраў бруку на былой вуліцы Жыдоўскай.*

**Вячка Васілёнак, Менск**

## Хто такі І.Цытовіч?

*У 1843 годзе І.Цытовіч апублікаваў у часопісе «Маяк» артыкул «Два словы аб мове і пісьменнасьці Белай Русі», у якім ставіў пытаньне аб неабходнасьці разьвіцьця беларускае літаратуры і, у якасьці прыкладу, прывёў віншавальны верш «Чалом, чалом, ацец, татулька». Вядомы беларускі літаратуразнаўца і гісторык Генадзь Кісялёў лічыць аўтарам артыкула публіцыста і пэдагога Іосіфа Парфір'евіча Цытовіча (1811(?)—1870), які «скончыў Магілёўскую духоўную сэмінарыю. З 1835 году працаваў настаўнікам мовы ў Віцебскай і Полацкай духоўных вучэльнях, з 1844 — у дваранскай вучэльні і гімназіі, наглядчык павятовай вучэльні ў Панявежы».*

*Калі прачытаць гэты артыкул, дык адразу відавочна: яго аўтар — высокаадукаваны чалавек, таленавіты літаратар і крытык. У кнізе беларускага гісторыка Ўладзімера Арлова «Alma mater Polocensis» можна знайсьці, што адказным рэдактарам часопіса «Месячнік Полацкі» (1818—1820 г.) быў прафэсар фізыкі і доктар філязофіі Юзаф (Іосіф) Цытовіч. На маю думку, журналіст і вучоны больш падыходзіць для аўтарства артыкула, чым сьціплы выхаванец праваслаўнай сэмінарыі, у акружэньні якога найрад ці магла падрыхтавацца глеба для нараджэньня беларускае нацыянальнае ідэі. Хаця нельга адкідваць магчымасьць, што адказны рэдактар часопіса і пэдагог з Панявежу — адна і тая ж асоба.*

*Дзякуючы працам гісторыкаў Я.Вялінскага і М.Каяловіча, у мяне ўзьнікла думка, што беларуская ідэя нарадзілася на пачатку XIX ст. у Віленскім унівэрсытэце. Але ў гэта цяжка паверыць, бо ўнівэрсытэт быў бастыёнам польскай культуры на землях былога Вялікага Княства Літоўскага. У ім графам М.Румянцавым быў створаны навуковы цэнтар па вывучэньні гісторыі і культуры ВКЛ: І.Лабойка, І.Даніловіч, М.Баброўскі, К.Контрым, І.Ярашэвіч і інш. Вядомым супернікам унівэрсытэту была Полацкая акадэмія. Яе скончылі шмат дзеячоў, якія маюць прамое дачыненьне да ўзьнікненьня беларускае ідэі — пісьменьнік Ян Баршчэўскі, гісторык і цэнзар Павел Кукальнік, археоляг і этнограф Канстанцін Тышкевіч, вядомы чыноўнік і літаратар Канстанцін Сербантовіч, прысутнасьць Полацкай акадэміі адчуваецца амаль у кожнай значнай беларускай падзеі 20—50-х гадоў XIX ст.*

**Аляксандар Ільін, Берасьце**

## Украіна перарасла свае лапці

Пры канцы мінулага месяца Адэса — адсоткаў на 70 «ісьціннарускі горад» — зазнала нечуваны дагэтуль наплыў сьвядомых носьбітаў украінскае мовы. Тут з 26 па 30 жніўня адбываўся IV Міжнародны кангрэс украіністаў. Адбываўся з належным размахам. І атрымаўся. У Адэсе сабраліся прадстаўнікі ўсіх кантынэнтаў, за выняткам, бадай што, Антарктыды. Аднак, што дзіўна — стэрэатыпных «дыяспарных дзядоў» (як кажа вядомая ўкраінская пісьменьніца-фэміністка Аксана Забужко) там не назіралася, як, дарэчы, і самой пані Аксаны, якая бавіць час дзесьці ў Італіі. Амплітуда дакладаў сягала ад праблемаў посткаляніяльнага грамадзтва да пытаньняў дзяржаўнае бясьпекі. Усё гэта ўваходзіць у абсяг украіназнаўства. Асаблівую ўвагу і найбольшую колькасьць слухачоў прыцягвалі сэкцыі і круглыя сталы, прысьвечаныя сучасным праблемам літаратурнага працэсу, грамадзка-палітычнага жыцьця і культуры — так, у межах літаратурнага стала адбылася надзвычай цікавая дыскусія па пытаньні літаратурнага канону і мэтазгоднасьці яго існаваньня.

Трэба сказаць, што тыя няпэўнасьць і хваляваньне, якія ахінулі Ўкраіну напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, выразна адчуваліся на кангрэсе. Выяўлялася гэта таксама ў цікавасьці да ўсяго, што адбываецца ў Беларусі, у імкненьні — без паблажлівага божканьня («Ой, бедненькія!» і г.д.) — зразумець сытуацыю, у воплесках, якімі віталі заявы пра тое, што наступны даклад будзе прачытаны па-беларуску, у адсутнасьці памкненьняў дзяліць агульную культурную спадчыну, у тактоўнасьці фармулёвак.

Мне здалося, што Ўкраіна ўрэшце перарасла свае «лапці», што стэрэатыпны вобраз краіны галушак і гапака пачаў зьнікаць са сьвядомасьці.

**Андрэй Скурко**

## Фэстываль радыяцыйнай песьні

Калі цётачка з клункамі даведалася ў вагоне, адкуль вяртаецца наша каманда, на яе твары зьявілася палахлівае зьдзіўленьне: «І панесла ж вас у самую радыяцыю!»

Фэстываль аўтарскай песьні на адным з рукавоў Дняпра — Крывой Рэчцы паблізу «гораду энэргетыкаў» Славуціча праводзіцца пяты год запар і зьбірае часам, кажуць, да паўтарох тысяч удзельнікаў з розных краінаў Эўропы.

Гэтым разам (27—29 жніўня) народу назьбіралася соцень шэсьць. Арганізатары паклапаціліся ня толькі аб гукаўзмацняльнай апаратуры і дровах, якія хутка і танна загатаўлялі і вывозілі з «зоны адсяленьня», але і аб ватэрклязэтах.

Беларуская тусоўка на фэстывалі адразу вызначылася вялізнымі бел-чырвона-белымі сьцягамі і па-барбарску шумнай падтрымкай сваіх. Ня дзіва, што чатыры з васьмі ляўрэатаў аказаліся нашымі землякамі. Я ў ляўрэаты не прайшоў, але меў выступы і на канцэрце гасьцей, і на канцэрце ўдзельнікаў пад бурныя воплескі гамельчукоў, што дабіраліся да фэстывальнага лесу і на байдах, і на раварах, і пешкам, і таксоўкамі.

Апроч гомельскіх, засьвяціліся на «Славуцічы-99» калегі з Фаніпаля, Жлобіна, Буда-Кашалёва, Салігорску. Трохі паасобку трымаўся расейскамоўны Віцебск. Украінцы без праблем пераходзілі на «рідну мову», хоць і зрэдку. А ў цэлым атмасфэра была незацяганай і досыць свабоднай. Наступным годам спадзяюся наведаць гэтую сымпатычную тусоўку зноў, што й вам рэкамэндую.

**Андрэй Мельнікаў**

дзе варта быць

**8 верасьня дзень беларускай вайсковай славы**




Сьвяткаваньне Дня беларускай вайсковай славы распачнецца ў Менску 8 верасьня а 17.30 шэсьцем ад Опэры. Пасьля чаго а 18-й гадзіне ў парку Янкі Купалы адбудзецца рок-канцэрт з удзелам слынных айчынных камандаў. **8 верасьня будзе сьвяткаваць і Горадня.** Ля старой Каложы а 17-й гадзіне пачнецца рыцарскі турнір і канцэрт бардаў Віктара Шалкевіча, Зьмітра Бартосіка ды іншых. Летась гарадзенскае сьвята сабрала на нёманскім беразе каля тысячы маладых. Гэтым разам нас будзе болей.




**10 верасьня ў Менску зноў прагучаць «Воплі Відаплясава».**

«ВВ» — яркі прыклад сапраўднага камэрцыйнага посьпеху нацыянальнага культурнага прадукту на прасторы ад Курылаў да Парыжу. Украінскія музыкі ў нашай краіне ўжо не ўпершыню. І, нягледзячы на восень, у Канцэртную залю «Менск» а 19-й гадзіне зноў «Вэсна прыйдэ». Кошт білетаў: 3—3,5 млн. Інтэрвію з Алегам Скрыпкам чытайце на 6-й старонцы.

Калі ў вас ёсьць жаданьне ўбачыць Нешта, прыходзьце 7 верасьня ў менскі Палац мастацтва, дзе пачнецца **І міжнародны фэстываль пэрфомансу «Навінкі-99».** Самы загадкавы мастацкі жанар, што спалучае жывапіс, тэатар ды шаманства, народжаны ў Вольным сьвеце ў 60-я гады як пратэст супраць «ratio» ў мастацтве, знайшоў нямала прыхільнікаў у Беларусі. У фэстывалі возьмуць удзел пэрфомэры зь Вялікабрытаніі, Гішпаніі, Польшчы, Літвы, Ірляндыі, Нямеччыны, Славаччыны й Даніі. За чатыры дні будзе паказана каля сарака пэрфомансаў, у тым ліку й вулічных прадстаўленьняў.

У нядзелю, 12 верасьня, Таварыства Беларускай Мовы (вул. Румянцава, 13) запрашае нас на **адкрыцьцё бібліятэкі свайго Кніжнага Клюбу.** ТБМ інтрыгуе сваім немалым беларускім кнігазборам старых віленскіх ды варшаўскіх выданьняў 10—30-х гадоў, а таксама кнігамі, што выдаваліся па вайне беларускай эміграцыяй. Калі пачытаць не дадуць, дык хоць патрымаць у руках віленскага Гарэцкага цікава.

У канфэрэнц-залі Нацыянальнай бібліятэкі **галерэя «Брама» ладзіць выставу пад назваю «З канца тысячагодзьдзя».** Маладых мастакоў усіх магчымых жанраў — жывапіс, графіка, скульптура, габэлен, кераміка — аб'ядноўвае абстрактна-філязофскі накірунак. Мастакі ўяўляюць сабе будучыню беларускага мастацтва.

Зьвяз Беларускай Моладзі ў Польшчы агалашае **конкурс на выканаўцаў фэстывалю «Бардаўская восень'99».** Просім дасылаць касэту са сваімі творамі на адрас:
15-959 Białystok 2
P.O. Box 73
Пытаньні праз e-mail: slonko@free.ngo.pl

## Мітынг за стварэньне беларускамоўнага ўнівэрсытэту

**9-га верасьня 1999 году з 17.00 да 19.00 у Менску на плошчы перад Палацам чыгуначнікаў (вул. Чкалава).**

***Праезд мэтро (станцыя "Інстытут культуры" і трохі прайсьці ў бок аэрапорту).***

***Сакратарыят ТБМ***

знакам тым

# БЯДА БЕЛАРУСАЎ

**Вольга КАРАТКЕВІЧ**

Хто ж гэта накупіцца па 450 тысячаў пры заробку ў 10 мільёнаў — тралейбусная дыскусія адносна падвышэньня цаны на тавар першай патрэбы — на гарэлку...

3-га верасьня прыйшлося назіраць бойку за апошнія 7 пляшак гарэлкі ў фірмовай краме «Крышталь» па вуліцы Кастрычніцкай. Каса, паводле словаў пэрсаналу, закрываецца а 18-й. Людзей у краму пускалі ўлучна да 17.55. Людзі хацелі гарэлкі. Кожны з розных прычынаў. Я прывяла швэдаў купіць гарэлкі й джыну. Швэдаў пачалі цкаваць — на, выкусі, самім мала. Едзь на вуліцу Варвашэні. Там працуюць да 21-й. Але гарэлкі няма. Гы-гы. Адзін мужчына проста загістэрыў: «Я хачу піць. Гарэлку. І абвяшчаю ў краме сядзячы страйк. Дзевушка, тут замежнікі. Няўжо ня сорамна?»

— У нас ёсьць толькі 5 з сапсаванымі коркамі.

— Бяру.

— А замежнікі?

— Няхай глядзяць, як людзі ненавідзяць адно аднаго за гарэлку...

— Добра, для замежнікаў — апошняя. «Белая Русь».

— Але нам па чарзе не палагаецца, — папрасіў перакласьці швэд.

— Бярэце ці не?

— Не.

— Дурное выхаваньне, што тут скажаш.

Кепскае выхаваньне справакавала скандал перад футбольным матчам Беларусь—Уэльс. Швэдам не дазволілі «пранесьці» ў торбе пляшку гарэлкі, атрыманую ў падарунак пасьля сэмінару. Параілі пайсьці ў камэру захоўваньня рэчаў. Атрымалася, што я не пасьпела выказаць па-наску. Мяне міліцыянты прынялі за «нянашу». Адшукалі хлопца, які гаворыць крыху па-ангельску. Хлопец прапанаваў варыянт — пакінуць гарэлку на ўваходзе, а пасьля матчу забраць. ОК. Футбол быў добры. У закрытай прыбіральні зрабіла заўвагу дзяўчатам, што ў памяшканьні ня паляць. Рэакцыя — цытую — «ня маеш мужыка, дык падзелімся. І пінжачок папрасаваць не зашкодзіла б...» Цяжка было стрымана тлумачыць швэдам упартую прапанову аднаго падагрэтага заўзятара: «Лукашэнку — на поле!!!» Натуральна, гарэлкі нам не аддалі — некуды зьнікла з-пад пільнага вока міліцыянта. Сярод міліцыянтаў нарадзілася ідэя купіць пляшку. Але яны не памяталі, якая была ў швэдаў.

Нацыянальны тавар — гарэлка — быў самым хадавым і на так званых школьных кірмашах. Адзін такі быў арганізаваны на Кастрычніцкай плошчы перад «саркафагам» у суботу перад пачаткам навучальнага году. Расейская папса, п'яная моладзь, вар'яцкія цэны на боцікі й сукеначкі. Каля 18-й гадзіны наведнікі кірмашу спустошылі гарэлкавыя паліцы ўнівэрсаму «Цэнтральны» й забыліся і на баціначкі, і на грамадзкія прыбіральні. Два дзецюкі ў двароx вуліцы Энгельса каля будынку вядомага для далучаных офісу ў адной руцэ трымалі па пляшцы піва, іншай прытрымлівалі орган і рабілі туалет на сьцены. У гэты час будучыя першаклясьнікі, мурзатыя пасьля піражкоў, цярпліва чакалі сваіх татаў. Калісьці я мела сабаку пароды ратвэйлер, і суседзі шчыра дзівіліся, што сабака не хадзіў у туалет на тратуарах і ў радыюсе ста мэтраў каля дому.

Зьехаць ад усяго гэтага. Зьехаць туды, куды не даходзяць кароткія хвалі беларускіх радыёстанцыяў, каб ня чуць пра ўмовы, перамовы, недамовы, перадумовы, прамовы і мовы. Калегва параіў фірму. Шмат гадоў на беларускім рынку. Гішпанія. Аднамесны нумар. Добрая прапанова. Ладныя грошы. Пад час аплаты «туру» ўрываецца крымінальнага выгляду — ня ведаю, ці супрацоўнік.

— Мне трэба падсяліць дзеўчыну. Ці ёсьць хто сам адзін?

Паварочваецца ў мой бок. Божа мой, я ж аплаціла аднамесны нумар.

— Можа возьмеце? Таньней будзе.

— Калі ласка, я ж дамаўлялася....

Малады чалавек крымінальнага выгляду дастае фотаздымак і паказвае мне дзяўчыну. Прыглежую. І кажа:

— Паглядзіце, якая сымпатычная. Лесьбіянка.

— ???

— Не звяжайце. Ён у нас жартаўнік.

А пасьля мяне папярэдзілі — абавязкова вазьмеце гарэлкі ў самалёт. Бо рэйс чартэрны, і зь вядомым электаратам вам прыйдзецца правесьці 3,5 гадзіны.

# ТРЫ ГАДЫ БЯЗ ГУКУ

## *Выключанае Радыё 101,2 верыць у свой эфір*


Каманда Радыё 101,2 FM


Дырэктар Радыё 101,2 FM Зьміцер Новікаў

**«НН»: Вас зачынілі ў той момант, калі Радыё толькі пачало ўздымацца: выйшла «ў нуль» і займела рэальную пэрспэктыву на прыбытак.**

**Зьміцер Новікаў:** Калі мы стваралі Радыё, мы вырашылі існаваць незалежна ў поўным сэнсе гэтага слова. Першыя месяцы па выхадзе ў эфір людзі працавалі амаль на голым энтузіязме. Лета лічыцца самым беспэрспэктыўным для пошуку рэклямы часам, але менавіта ўлетку 1996-га яна «паваліла».

Падвышэньне рэйтынгу Радыё зьвязанае з інфармацыйнымі выпускамі, як уласнымі, так і рэтрансьляванымі («BBC», «DeutscheWelle», беларуская рэдакцыя «Polskiego Radja-5»). Фактычна, у сфэры інфармацыі Радыё засталася па-за канкурэнцыяй адносна «ВА» і «Роксу». З дапамогай інфармацыі Радыё захапіла свае 25% патэнцыйных слухачоў, таму магло сабе дазволіць працаваць у клясычным гіт-фармаце.

Мы рабілі апераджэньне інфармацыі, стваралі эксклюзіў. У ідэале я бачыў ператварэньне Радыё ў цалкам інфармацыйны канал, і паралельнае стварэньне яшчэ адной — забаўляльнай станцыі. Бо ж, як не было ў Беларусі падобнага незалежнага праекту, так няма й дагэтуль.

**— Наколькі рэальныя дапушчэньні аб ролі дзейных і патэнцыйных канкурэнтаў, якія «прыклалі лапу» да закрыцьця Радыё? У друку ўсплывалі вэрсіі аб некаторых маскоўскіх станцыях, нават нашыя «папсавікі» згадваліся...**

— Казаць пра падзел эканамічных сфэраў што да FM-эфіру ў сучаснай Рэспубліцы Беларусі несур'ёзна. За апошнія тры гады колькасьць рэклямадаўцаў, якія і тады было няшмат, зьнізілася. Зьнізіліся й сумы, якія праходзяць праз станцыі. Закрыцьцё Радыё зьвязанае з тым, што дзяржава адышла ад «прамываньня мазгоў» пэнсіянэрам і ўзялася за моладзь.

Вельмі важны момант: на сёньняшні дзень дзяржава можа тэхнічна забясьпечыць існаваньне толькі сямі FM-станцыям. Шэсьць працуюць, адна «ў заначцы». У 1996 годзе месцы былі расьпісаныя, мы на «пляцоўцы» не зьмяшчаліся ні па ніякіх парамэтрах.

У нас была патэнцыйная аўдыторыя моладзі. Мы не былі заангажаванымі якой-кольвек палітычнай, эканамічнай ці якой іншай структурай. Ніхто ня можа сказаць, што мы выконвалі чыесьці замовы (дарэчы, гэтая сытуацыя раздражняла ўсе бакі: і ўлады, і апазыцыю). Нават, калі б на рэфэрэндуме ў 1996 годзе перамагла апазыцыя, мы ўсё роўна засталіся б апазыцыянэрамі. Бо, калі ты паслугоўваесься прынцыпам свабоды слова, ты ня можаш ня мець сутыкненьня з уладай (некаторыя «нацыяналісты» думалі, што раз мы вяшчаем па-беларуску, значыцца а priori «парцейныя»). Тым ня менш, мы мелі сваю грамадзкую пазыцыю, і калі лічылі, што рэфэрэндум ня наш, так і казалі. Калі палічылі, што на выбары ісьці трэба, самі зрабілі адпаведную рэкляму («Ніф-Ніф, ты яшчэ не хадзіў на выбары?» — «Не-е...» — «Ну і сьвіньня ж ты!»).

Нам прапаноўвалі застацца ў эфіры, але пад крылом «камсамольцаў» з БПСМу. Маўляў, якая розьніца, пад якой лэйбай зарабляць грошы. Гэта цынізм людзей, якія цяпер пры ўладзе. Яны пасадзілі на нашу хвалю БПСМаўцаў. Супрацоўнікі іхнай станцыі маюць такія магчымасьці для працы, якіх няма ў іншых менскіх эфэмшчыкаў. БПСМаўцы не залежаць ад рэклямы, бо фінансуюцца наўпрост дзяржавай. Яны круцяць музыку, папулярную ў сёньняшніх падлеткаў. Для іншых гэта немагчыма, бо падлеткі ня маюць грошай, адпаведна яны нецікавыя рэклямадаўцам.

Іншае пытаньне, наколькі БПСМаўцы скарыстоўваюць свае магчымасьці, і наколькі вялікі ўплыў маюць на моладзь. Мяркую, ня надта высокі, паколькі прафэсійная FM-станцыя і сядзеньне на бюджэтнай «ігле» ня маюць нічога агульнага.

**— Сёлета ў нашых СМІ прагучала тэма «захопу» беларускага радыёэфіру расейскімі карпарацыямі. Наколькі рэальная такая пэрспэктыва?**

— Расейцаў ніхто ня пусьціць на сваё ідэалягічнае поле. Што датычыць фінансавага захопу, наш радыёрынак — гэта блеф. Сёньня станцыі выжываюць у спадзеве на паляпшэньне сытуацыі. Гэта значыць, на прыток рэклямы, што, у сваю чаргу, стане магчымым пры разьвіцьці рынкавых адносінаў, прадпрымальніцтва. А ў такіх умовах навошта прадавацца, калі сам можаш зарабіць? Гэта абстрактныя разважаньні. Пакуль мы бачым, што тры бюджэтныя станцыі — «Сталіца», «Мір» і «Стыль» жывуць на зарплату, а тры прыватныя — «Рокс», «ВА» і «Альфа» круцяцца, як могуць, каб не загнуцца.




**— Калі дагэтуль не загнуліся, значыць, ім не дадуць загнуцца. «Альфа» толькі зьявілася, кажуць, тэндэр выйгралі ў канкурэнтаў кшталту карпарацыі «Славнефть»?**

— Я ня бачыў іхных папераў, але я задаю пытаньне: хто ў нашай краіне можа выйграць тэндэр у дзяржавы і выкласьці пару соцень тысяч даляраў на такое рызыкоўнае прадпрыемства як радыё? У «радыёкулюарах» называюць прозьвішчы канкрэтных чыноўнікаў, якія стаяць за падобнымі праектамі... Іншая рэч — якую пэрспэктыву бачаць перад сабою людзі, якія хацелі б прыбраць FM-станцыі да сваіх рук. Пасьля тэлевізіі гэта адзін з самых прыбытковых бізнэсаў — продаж «паветра». Але ён немагчымы без свабоднага эканамічнага і, адпаведна, рэклямнага рынку. Дзяржава-трымальнік радыёхваляў сама сабе спыніла доступ да гэтага бізнэсу. Цяпер нават тыя прадпрымальнікі, якія маюць грошы, баяцца іх «сьвяціць». Не баяцца монстры кшталту «VolksWagen» ці нашы фірмы, чые асноўныя капіталы па-за дасягальнасьцю беларускіх фінслужбаў, альбо тыя, хто ў той ці іншай форме мае дзяржаўны «дах». І ўсё адно, агульнае абарачэньне рэклямных грошай на нашых FM-станцыях вартае сьмеху.

**— Гучыць дзіўна, нават улічваючы рэаліі дзяржаўнага фінансавага рэкету. Напрыклад, найвялікшыя магчымасьці мае радыё «Сталіца» — адзінае, якое слухаюць амаль па ўсёй Беларусі. Любы прысьценькі ролік можа прынесьці заўважныя плюсы рэклямадаўцу.**

— Але ён нічога ня дасьць супрацоўнікам радыё «Сталіца». Навошта «шаволіцца»: займацца мэнэджмэнтам, маркетынгам і г.д., калі асабіста ў тваю кішэню нічога не патрапіць? Гэта стандартны савецкі стыль працы — робім, як робіцца.

**— Затое «сталічнікі» могуць сабе шмат чаго дазволіць у эфіры. Напрыклад, пакуль астатнія станцыі ў прайм-тайм круцяць «Вецер з мора дуў», «Сталіца» прапануе клясыку рок-н-ролу, ці сучасную альтэрнатыву, ці яшчэ што-небудзь «складанае»...**

— ...Усьлед за чым можна пачуць кандовае кшталту «Па вашых просьбах» ці занудны рэпартаж аб колькасьці сабранага збожжа. Радыё павінна быць прадказальным, пасьлядоўным.

**— Радыё 101,2 было ці не адзінай станцыяй, якая актыўна пасылала сваіх супрацоўнікаў на стажы і ладзіла сэмінары, дзе выкладалі заходнія спэцыялісты.**

— Сапраўды, мне прасьцей распавесьці, як трэба рабіць радыё паводле даўно вынайдзеных і адпрацаваных заходніх мэтадаў, чым спрабаваць зразумець падыходы беларускіх FM-станцыяў, якія сёньня працуюць у эфіры. Хутчэй за ўсё, у іх няма цяпер ні фінансавых, ні маральных рэсурсаў для пошукаў і росту. Мяне задавальняе, што «старажыл беларускага FM-эфіру» радыё «ВА» нарэшце зрабіла ці не адзіны прафэсійны крок у сваёй гісторыі — абрала расейскі фармат. Як яны мелі ўвесь час сваe 28—30% аўдыторыі, столькі ж і маюць зараз. Яны ад пачатку арыентаваліся на пэўны сацыяльны і інтэлектуальны слой насельніцтва. Цяпер яны «паставілі вешкі» вакол сваёй дзялкі, і іншым радыё няма сэнсу рабіць эфір і рэпэртуар, ідэнтычны «бізэўскаму»... Расейскі фармат «ВА» — натуральная зьява, як газэты кшталту «Дэтэктыв», «Анекдот» ці «Кросворды».

**— Парнаграфічныя формы зарабляньня грошай найбольш удалыя пры ўмове незапоўненасьці рынку. З пачаткам савецкай «перастройкі» на «дазволены» рынак грымнула лава нізкаякаснай друкаванай прадукцыі. Але з часам людзі яе «наеліся». У Расеі пачаліся спробы запускаць «сур'ёзныя» праекты...**

— У Беларусі ніхто яшчэ не спрабаваў працаваць глябальна, на пэрспэктыву. Радыё 101,2 прынцыпова не выкарыстоўвала расейскіх песень і займела уласную немалую аўдыторыю. Стабільную, з пэрспэктывай на павелічэньне. Мы арыентаваліся на рознаўзроставага слухача, «які думае». Менск — мэгаполіс, які ўбірае ў сябе ўсе магчымыя варыянты публікі (у нас блізкі быў выхад на Берасьце і іншыя гарады). Мы ведалі, што можна гадаваць свайго слухача. Прынцып кшталту: сёньня народ хоча расейскай папсы — даем, заўтра хоча турэцкай — даем, — гэта прынцып несамастойных, тых, хто сядзіць «на хвасьце» ў мацнейшага.

Нашае грамадзтва спаралізаванае савецкімі комплексамі і стэрэатыпамі. Найперш: беларускае — горш за расейскае. Мы зламалі гэты стэрэатып, да нас рэзка пацягнуліся людзі. Таму нас і зачынілі, бо спужаліся разьвіцьця — незалежнасьці ў галовах.

Можна бясконца крытыкаваць сёньняшнія FM-станцыі, матэрыялу не бракуе. Асабіста мне як слухачу ня хочацца іх уключаць, бо зьяўляецца адчуваньне кананьня. Нібы паміраеш паволі разам з гэтымі станцыямі. У іх абсалютна няма энэргетыкі. Але трэба зразумець, што нашае грамадзтва выхоўвалася нібы ў лябараторыі Паўлава. Сабаку далі кавалак мяса — пацягнуўся, ляснулі па галаве палкай — другі раз цягнуцца страшна. Радыё 101,2 паказала грамадзтву, якім можа быць людзкае радыё.

**— Значыць, калі заўтра адновіцца Радыё...**

— Мы працягнем тое, што пачалі. І зробім гэта яшчэ лепш. Зараз паветра напоўненае прапагандай і контрапрапагандай, а нармальны чалавек хоча нармальнасьці. ■

*Фотаздымкі з архіву Радыё 101,2 FM.*

### даведка «Нашай Нівы»

Дагэтуль не існуе якога-кольвек дакумэнту, які б сьведчыў аб закрыцьці Радыё 101,2. Яно пачало вяшчаньне ў ліпені 1995 і больш чым за год працы ад дзяржспэцыялістаў не паступала аніякіх прэтэнзіяў. **30 жніўня 1996 Радыё раптоўна атрымала «ўведамленьне», што Міністэрства сувязі дало загад спыніць «на пэўны час» вяшчаньне на хвалі 101,2 FM з 1 верасьня 1996.** Тлумачэньне — эфір замінае функцыянаваньню так званай «спэцсувязі», таму перадатчык з вул.Камуністычнай трэба перасунуць у Калодзішчы...

Спыненьне эфіру не было замацаванае ніякімі дакумэнтамі. Яно было незаконнае ва ўсіх сэнсах. Радыё мела абавязкі перад рэклямадаўцамі, якія праплацілі грошы на чатыры месяцы наперад. Але большасьць прадпрымальнікаў зразумелі сытуацыю і не «выбівалі» грошай, якія ўжо немагчыма было вярнуць, бо іх уклалі ў справу. Тады Радыё зьбіралася пашыраць плошчы, ладзіць другую студыю і шмат чаго іншага... «Сьпярша мы былі проста ў шоку, — казалі супрацоўнікі. — Ад пачатку працы разумелі, што рана ці позна гэтым мусіла скончыцца, але каб так брутальна!..» Радыё мусіла судзіцца зь Мінсувязі, зь якім заключалі дамову. Але чыноўнікі адказалі, што ня маюць да Радыё аніякіх прэтэнзіяў, а што адбываецца — ведаюць у Адміністрацыі прэзыдэнта.

Неўзабаве пачалося ліцэнзаваньне радыёдзейнасьці. Ліцэнзію не далі на падставе таго, што Радыё няма ў эфіры. Праводзіліся акцыі пратэсту супраць самавольства рэжыму. Тым часам некаторыя дэпутаты Вярхоўнага Савету спадзяваліся, што ў лістападзе адстаяць сваю ўладу, і тады... Пасьля рэфэрэндуму ў лістападзе 1996 размаўляць на тэму аднаўленьня эфіру пакуль не выпадае. ■

# НОВЫЯ РАДЫЁ

*Працяг са старонкі 1.*

Эндэцкая польская рацыя стану, прадстаўленая ва «Wspołczesnej», выглядае зусім інакш. Паводле яе, беластоцкі крэсавы люд — гэта не народ, а кандыдаты ў палякі. Затое ёсьць праблема польскай меншасьці ў Беларусі. Новае радыё можа ўскладніць адносіны з Лукашэнкам, які ў рэакцыю можа пачаць дыскрымінаваць тамтэйшых палякаў. Польская рацыя стану, паводле «Wspołczesnej», патрабуе гарантыяў для польскай меншасьці ў Беларусі і рынку збыту на ўсходзе для польскіх прадуктаў. Хто і як кіруе суседняй дзяржавай — у прынцыпе няважна. І ніякае радыё непатрэбнае.

Зразумела, што польскія газэты ня ўлічваюць беларускіх дзяржаўных інтарэсаў. Ці нармальная сытуацыя, калі беларуская нацыянальная меншасьць у Польшчы імкнецца ўплываць на лёсы беларускай мэтраполіі? Так, бо мы ўсе адзін народ. Гэта іх права. Больш, гэта іх беларускі абавязак. Ці прывядзе гэта да пагаршэньня беларуска-польскіх дачыненьняў? Пагоршыць гэтыя дачыненьні на палітычным узроўні мацней, чым яны цяпер кепскія, немагчыма, а эканамічныя, як паказвае досьвед, больш залежаць ад цаны бэнзыну й карумпаванасьці мытнікаў, чым ад палітычнай кан'юнктуры. Ці падставіць гэта пад удар беларускіх палякаў? Але й тут, як паміж дзяржавамі, далей няма куды — дыскрымінацыя школаў, нежаданьне рэгістраваць Саюз палякаў і г.д. Ці будзе гэтае польскае радыё выклікаць у беларусаў Беларусі адпрэчваньне? Не, бо яго, у адрозьненьне ад беларускай рэдакцыі Польскага радыё, будуць рабіць прафэсійныя беларускія журналісты зь Беларусі, якія ня будуць вымаўляць беларускія словаў з кракаўскім акцэнтам і паланізаваць мову да непрыстойнасьці. Ці будзе радыё «Рацыя» лішнім для Беларусі? Такія сама радыёстанцыі мусілі б паўстаць у Літве і Ўкраіне. Будзем спадзявацца, што вяшчаць яно будзе і ўдзень, і ўначы, што якасьць прыёму будзе лепшай, чым цяпер у «Свабоды» і што будзе яно музычным.

Мы паспрабавалі даведацца ў тых беларускіх мэнэджэраў і журналістаў, што маюць дачыненьне да радыё «Рацыя», нейкія «шчэгулы». Усе трымаюць зарок маўчаньня. Значыць, справа сур'ёзная. Беларускія ўлады баяцца новага радыё так сама моцна, як калісь баяліся «101,2 FM». Толькі тут у іх рукі кароткія.

Барыс Тумар

*1 верасьня а 8-й гадзіне раніцы група менчукоў, занепакоеная лёсам будынкаў № 5, 7, 9 па вул. Камсамольскай – помнікаў архітэктуры XIX ст. — несанкцыянавана выйшла на скрыжаваньне вуліц Нямігі й Камсамольскай з плякатамі й заклікамі спыніць разбурэньне. Сябры Згуртаваньня беларускай моладзі «Эўрапейскі Шлях», удзельнікі хору беларускай песьні «Адраджэньне» перашкодзілі разбурэньню дома № 7 па вул. Камсамольскай, устаўшы перад бульдозэрамі і экскаватарамі. У прысутнасьці супрацоўнікаў міліцыі кіраўніцтва «будоўлі» паабяцала прыпыненьне злому.*



Пікет на Камсамольскай

# СУПРОЦЬ РАЗБУРЭНЬНЯ

*Гэтая міні-перамога не каштавала ўдзельнікам нават звыклых у наш час затрыманьняў. Камэнтуе лідэр «Эўрапейскага Шляху» Аляксей Фралоў:*

«За апошнія гады былі зьнішчаныя ўнікальныя рэшткі Дабравешчанскай царквы XII ст. у Віцебску, абкладзеныя цэглай арыгінальныя ўзоры драўлянай архітэктуры — цэрквы ў в.Забалацьце і в.Драчкова Смалявіцкага раёну, зруйнаваная старавечная вежа ў Наваградку. У вежы былога Кальвінскага збору ў Заслаўі праваслаўная царква абсталявала «сьвячны заводзік», што праз пэўны час падпаліў помнік. Новым велізарным корпусам быў скалечаны агульны выгляд комплексу Мікалаеўскай царквы ў Магілёве — выдатнага ўзору беларускай барочнай праваслаўнай архітэктуры.

У сталіцы ў працэсе працаў на Верхнім горадзе акцыянэрнае таварыства «Стары Менск» зьнішчыла цэлы шэраг цікавых, рэдкіх і ўнікальных помнікаў. Гэта дамы № 2, 2а, 4, 6, 6а па вул. Герцэна, па Музычным завулку 1, па вул. Інтэрнацыянальнай 25, 21/3 (дом, дзе жыў Станіслаў Манюшка) і іншыя. Адбываецца разбурэньне старадаўніх аўтэнтычных будынкаў і пабудова на іх месцы танных муляжоў-катэджаў. Дазволы на падобную «рэканструкцыю» выдае сп.Бубноўскі — старшыня Камітэту па ахове гістарычна-культурнай спадчыны Міністэрства культуры РБ, які абавязаны назіраць за станам помнікаў. Але ж не! Вось ужо зьнішчаны дом № 7 на былой Фэліцыянаўскай (Камсамольская), за ім пойдзе і ўвесь квартал — падпішуць сьмяротны прысуд цікаваму і непаўторнаму раёну старога Менску. У кулюарах дзяржаўных установаў ужо месяц абмяркоўваецца чарговая «арыгінальная» ідэя — паставіць «новы большой собор» на Нямізе.

Менавіта таму ў Менгарвыканкам былі пададзеныя заяўкі на 7 пікетаў ля разбураных будынкаў на вул.Камсамольскай, каля Гасьцінага двару, каля Камітэту па ахове гістарычна-культурнай спадчыны, адказнага за яе руйнаваньне, і ля Міністэрства культуры. Дазволу нам не далі. Мы наладзілі першыя пікеты без дазволу. ■



# Юры Беленькі: «У НАС ЁСЬЦЬ ЦЭМЭНТ»

***Намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту Юры Беленькі на апошнім зьезьдзе БНФ падтрымаў бок З.Пазьняка. У інтэрвію нашай газэце вынікі першай сэсіі зьезду сп.Беленькі ацаніў так:***



— Адбылося шырокае абмеркаваньне розных праблемаў, якое вылілася ў два погляды на далейшую працу Фронту. На маю думку, вялікіх разыходжаньняў няма. У добрым сэнсе, на зьезьдзе былі праяўленыя пэўныя амбіцыі — гэта трэба, гэта натуральна, і кепска было б, каб маладыя палітыкі такіх амбіцыяў не выявілі, іншая справа — якім чынам гэта робіцца.

**— Ці ня значаць Вашыя словы тое, што Вы гатовы пакінуць групу артадаксальных прыхільнікаў Пазьняка, у складзе якой выступілі на зьезьдзе?**

— Я ня ведаю, што значыць «артадаксальныя прыхільнікі». Той, хто чытаў даклад Пазьняка, ведае, што ён уключыў прапановы Фёдарава па рэарганізацыі працы, падтрыманыя напярэдадні зьезду Вячоркам — па стварэньні паліткамітэту, разьмежаваньні функцыяў. Пасьля чаго, нечакана, прагучала іншая формула — зрабіць Пазьняка ганаровым старшынём, пазбавіць яго ўсіх рычагоў кіраваньня Фронтам. Былі выкарыстаныя мэтады, якія нельга выкарыстоўваць для сяброў — у лепшым выпадку для апанэнтаў. І тое, што цяпер прапануе Пазьняк — гэта фактычна інтэграваная прапанова, якая складаецца з ранейшых прапаноў Баршчэўскага і Хадыкі.

**— Кажуць, што на выніке галасаваньня на зьезьдзе паўплывалі «людзі ў штацкім». Ведаючы прыроду цяперашняга рэжыму, нельга не разумець, што КГБ імкнецца ўплываць на палітыку БНФ. Ці Вы, як адзін з кіраўнікоў, бачыце гэтыя «гульні»?**

— Магу даць толькі агульны адказ: бачым і адсочваем. Асабіста я бачу шмат паралеляў між тым, як раскалолі Рух ва Ўкраіне і як цяпер хочуць раскалоць Фронт — той жа мэханізм выкарыстоўваньня «прагматызму».

**— Пасьля першай сэсіі зьезду Ваша арганізацыя апынулася ў падвешаным стане?**

— Я б не назваў гэта падвешаным станам. Пасьля зьезду я праехаў па рэгіёнах, пагаварыў зь людзьмі — няма падвешанага стану, бо не існуе для яго аб'ектыўных прычынаў. Ведаеце, чаму існуе Фронт так шмат гадоў і не разваліўся, як некаторыя іншыя партыі? Ёсьць цэмэнт, які зьядноўвае ўсіх людзей. Гэта нашыя агульныя мэты, ідэі. Людзі, носьбіты гэтых ідэяў гатовыя ахвяравацца нечым уласным дзеля ідэі.

**— У датаваным 8 жніўня лісьце да сяброў БНФ Зянон Пазьняк прапануе стварыць Кааліцыю БНФ. Як Вы ставіцеся да гэтай прапановы?**

— Я лічу, гэта толькі адна з прапановаў, адзін з крокаў пошуку аптымізацыі працы Фронту. Калі зьвярнуцца да навуковых прынцыпаў існаваньня арганізацыі, дык, акрамя ўжо названага вышэй адзінства мэтаў, нельга забывацца і на гетэрагеннасьць — у арганізацыі мусяць быць людзі з рознай прафэсійнай падрыхтоўкай, іх веды трэба максымальна выкарыстоўваць. Мы не максымальна выкарыстоўваем патэнцыял. Таму мусім шукаць іншую формулу.

Многія крытыкуюць БНФ за тое, што за апошні час не адбылося ні пашырэньня шэрагаў, ні ўплыву на электарат. Але гэта не зусім так. Гэтыя 11 гадоў паказалі, што ідэі, якія вылучыў Фронт, паступова авалодваюць грамадзтвам. Узгадайце працэнт галасоў на рэфэрэндуме за захаваньне СССР і параўнайце з вынікамі сёньняшніх апытаньняў, колькі цяпер падтрымлівае незалежнасьць Беларусі. Практычна ўсе дэмакратычныя партыі сёньня стаяць на пазыцыях незалежнай дзяржавы.

Разам з тым, трэба памятаць, што ва ўмовах дыктатуры шэрагі апазыцыйных арганізацыяў не пашыраюцца, а звужаюцца. Яшчэ ў 1995 г., калі стала зразумела, што рэжым адкінуў усе прыстойнасьці, кіраўніцтва Фронту адкрыта сказала — будзе сьціскацца кола сяброў. Нашай задачай стала захаваць структуры і навучыцца дзейнічаць у іншых умовах, а галоўнае — не дапусьціць здачы незалежнасьці Беларусі.

**— Спадар Юры, Вы паводле рашэньня Ўправы зьяўляецеся кіраўніком групы па перамовах з уладамі з боку Фронту. Ці могуць гэтыя перамовы прывесьці да дадатнага выніку?**

— Я за тое, каб перамовы весьці. Яны вядуцца нават з тэрарыстам, які захоплівае заложнікаў.

Аднак я б не хацеў забягаць наперад, рабіць нейкія прагнозы. Сытуацыя сама па сабе ўнікальная — улады бок не адмаўляе сам факт перамоваў. А любы неасьцярожны крок ці заява могуць стаць фармальнай зачэпкай і мець нэгатыўныя наступствы дзеля перамоваў.

**— Як Вы ставіцеся да Мэмарандуму, што падпісалі прадстаўнікі 7-мі партыяў, у прыватнасьці, да пункту аб даручэньні Вярхоўнаму Савету выдаваць мандат на ўдзел у перамовах?**

— На апошнім паседжаньні Кансультацыйнай рады было бачна, што гэтае пытаньне яшчэ ў стадыі распрацоўкі. Калі ж браць цалкам, дык нарада паказала, што вялікіх супярэчнасьцяў паміж партыямі няма — ёсьць тэхнічныя моманты, якія яшчэ трэба ўдакладніць, у тым ліку пытаньне зь Вярхоўным Саветам.

Партыя БНФ унесла прапанову, што абавязковай умовай удзелу ў перамовах зьяўляецца мараторый на правядзеньне любых дзеяньняў уладаў па аб'яднаньню Беларусі зь іншай дзяржавай. Калі б такое адбылося, усялякі сэнс згубілі б любыя перамовы ўладаў з апазыцыяй, бо прадмет перамоваў — гэта выбары ў найвышэйшы заканадаўчы ворган незалежнай краіны.

Пярэчаньняў на прапанову БНФ на Кансультацыйнай радзе не было. Былі канструктыўныя прапановы ўдакладніць і палепшыць.

**— Вяртаючыся да праблемы лідэрства БНФ, папрашу Вас выказацца пра альтэрнатыўнага кандыдата — Вінцука Вячорку.**

— Вінцука Вячорку я ведаю з «Талакі». Мы больш за 11 гадоў паплечнікі. Ён добры спэцыяліст у сваёй галіне. Але яму трэба яшчэ шмат набраць, каб прэтэндаваць на пасаду старшыні БНФ. Вячорка можа стаць пэрспэктыўным палітыкам, але пакуль у яго няма яшчэ адпаведнага досьведу, асабліва што датычыць арганізацыйных пытаньняў. Я ніколі не ідэалізаваў Пазьняка, я ацэньваю яго прагматычна, паводле таго, хто найлепш адпавядае пасадзе старшыні. І мне дзіўна, што тыя, хто ідэалізаваў, цяпер выступаюць супраць Зянона. Пакуль у Пазьняка ёсьць перавага над усімі канкурэнтамі: вядомасьць, воля, досьвед, арганізацыйныя здольнасьці, палітычная інтуіцыя, здольнасьць да палітычнага аналізу.

**— Вы кажаце «пакуль». Пакуль не адбудзецца што?**

— Пакуль ня зьявіцца асоба зь лепшымі якасьцямі.

**— Які сцэнар разьвіцьця сытуацыі? За Вашымі словамі не відаць сцэнару.**

— Сапраўды, людзі стаміліся. Жыцьцё кароткае, кажуць яны. Аднак Майсей 40 гадоў вадзіў народ пустыняю. Трэба набрацца цярпеньня. Пераспешыць нельга. Добра было б, каб мы мелі больш людзей, гатовых ахвяраваць сваім часам і энэргіяй, і больш матэрыяльных рэсурсаў.

Гутарыў Паўлюк Быкоўскі

# ВАЙНА НА ПОЎДНІ СНГ

Сяргей РАДШТЭЙН

На нашых вачах у сьвеце зьявіўся яшчэ адзін ісламскі фронт. Усё пачалося з таго, што група паўстанцаў-ісламістаў (узбэкі, а таксама таджыкі й пуштуны) з Таджыкістану захапіла дзьве кіргіскія вёскі й закладнікаў. Бішкек занепакоіўся. Узбэкістан даслаў кіргізам сваё войска на дапамогу, бо меркавалася, што паўстанцы хочуць прайсьці да Ўзбэкістану, а прэзыдэнт Карымаў — заяцты працівнік ісламістаў (пра яго кажуць — «ісламажэр»). Узбэцкія самалёты скідалі бомбы абыкуды, абы ня трапіць пад агонь, і паказалі, што супрацьстаяць баевікам могуць толькі цаной непамерных ахвяраў.

Неўзабаве паўстанцы вызвалілі бальшыню закладнікаў ды занялі ўжо два раёны, і стала зразумела, што ў ісламскага фундамэнталізму зьявіўся новы фронт. Мяркуецца, што за паўстанцамі стане (калі ўжо не стаіць) аўганскі Талібан. У прынцыпе, усё заканамерна, бо мула Амар, які ачольвае гэты рух, адразу ж пасьля захопу Кабулу дэкляраваў намер дайсьці неўзабаве да Фэрганы. Магчымая ня толькі матэрыяльная падтрымка, але і ўзброеная ўварваньне. За плячыма Талібану стаіць Пакістан, які мае адназначнае жаданьне граць у гэтым рэгіёне нашмат большую ролю, чым мае на сёньня — а ня так даўно ад цеснага супрацоўніцтва з ім адмовілася самая магутная дзяржава рэгіёну, Узбэкістан. Таму Пакістан ня будзе супраць умяшаньня Талібану.

Цэнтральнаазіяцкія ўрады нестабільныя. Межы тут праведзеныя адвольна. Любы штуршок можа зрушыць расклад сілаў на гэтым абшары. Побач маецца сталая крыніца неспакою — таджыцкі Горны Бадахшан, апанаваны ісламістамі й наркадзялкамі. Ясна, што Кіргістан ня здольны сам загасіць канфлікт. Цяжка сабе ўявіць і каб краіны рэгіёну паяднал сваі сілы — завялікія супярэчнасьці паміж імі. Выхад са становішча Аскар Акаеў можа знайсьці ва ўмяшаньні нейкай вялікай дзяржавы. Пра дапамогу Расеі гаварылася, але няздольнасьць Масквы да эфэктыўнага ўмяшаньня ў такія справы даказаная, а расейскі ўплыў на Цэнтральную Азію імкліва згасае.

Затое побач разьмешчаны кітайскі Сіньцзян, населены мусульманамі-уйгурамі, якія вядуць барацьбу за нацыянальную й рэлігійную эмансыпацыю. Самі кітайцы крэўна зацікаўленыя ў недапушчэньні ўмацаваньня ісламу. Кітай, калі прыйдзе на дапамогу кіргізам, лёгка разаб'е паўстанцаў, але рэч у тым, што пасьля ён адтуль так проста ня сыдзе.

Цэнтральнаазіяцкія рэжымы ня маюць сілаў процістаяць ісламістам і мусяць шукаць дапамогі за мяжой, бо яны цалкам прагнілі зь сярэдзіны. Таму ім прыходзіцца спадзявацца толькі на сілу. Уласным народам гэтыя пачварныя нашчадкі савецкай бюракратыі абрыдлі. Эфэктыўна кіраваць імі ня могуць. Альтэрнатывы сёньняшняму стану дзьве — або ў рэгіёне пачнецца інтэнсыўная ісламізацыя і ўзмацніцца ўплыў Пакістану, або сюды прыйдзе Кітай. У любым разе фантом СНГ губляе ўсякі сэнс.


Reuters
Кіргіскі мізар

навіны з Кіргістану

## Просяць у Расеі толькі тэхнічнай дапамогі

Выканаўца абавязкаў міністра абароны Кіргістану Чамоеў паведаміў, што краіна зьвярнулася па тэхнічную дапамогу да Расеі. Бішкек просіць верталёты, прыборы начнога бачаньня ды іншую драбязу. Па словах Чамоева, ісламскія партызаны некалькі сутак пазьбягалі сутыкненьняў з урадавымі войскамі. Чамоеў «супакоіў» саюзьнікаў: «На сёньня колькасьць баевікоў не перавышае колькасьці ўрадавых войскаў».

## Удары па ледавіку

У пятніцу на просьбу Кіргістану ўзбэцкая авіяцыя нанесла бомбавыя ўдары па партызанах у раёне ледавіка Абрамава. Ісламісты групамі па 15—20 чалавек тымчасам пранікаюць ва Ўзбэкістан. У раён канфлікту ўжо перанёс сваю стаўку міністар абароны Ўзбэкістану Турсунаў. У Таджыкістане вайскоўцы нібыта перакрываюць горныя перавалы, каб не прапусьціць новых ісламістаў у Кіргістан. Сярод партызанаў бальшасьць — узбэкі, ёсьць таксама аўганцы, таджыкі, кіргізы ды арабы. Паўстанцамі камандуе грамадзянін Узбэкістану, паляўы камандзір Джумбай Намангані. Са словаў кіргіскіх вайскоўцаў, паўстанцы добра ўзброеныя і маюць найноўшую тэхніку сувязі, у прыватнасьці, спадарожнікавую, мінамёты й гарматы.

## Закладнікаў на вязьняў

На сувязь з журналістамі выйшаў адзін з лідэраў узбэцкае апазыцыі Тахмір Фарук, які знаходзіцца на поўдні Кіргістану, і катэгарычна запатрабаваў вызваліць узбэцкіх вязьняў сумленьня. Толькі ў гэтым выпадку, гаворыцца ў заяве Фарука, лідэра ісламскага руху Ўзбэкістану, будуць вызвалены закладнікі.

Гары Куманецкі

## За сталом — толькі прэзыдэнты

Прычым усе — аднае краіны. І паміж сабою ня сварацца. Мабыць, этыкет не дазваляе. А рэч у тым, што на мінулым тыдні ў Вільні некалькі дзён правяла Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. Візыт меў на мэце перамовы зь Сямёнам Шарэцкім, які цяпер намінальна выконвае абавязкі прэзыдэнта Беларусі. Дарэчы, каб пацьвердзіць гэты намінал, сп.Сурвілла разам з С.Шушкевічам і прэзыдэнтам згуртаваньня «Бацькаўшчына» Р.Гарэцкім напісалі Зварот да народу Беларусі, да парлямэнтаў і ўрадаў дэмакратычных краін. А яшчэ дарэчы, выглядае, што яны ўсе і прыяжджалі для таго, каб гэты зварот падпісаць. Наш карэспандэнт заўважыў, што пасьля перамоваў са сп.Шарэцкім сп.Сурвілла выглядала нібы расчараванаю. Можа, проста занадта розныя людзі, а жыцьцё прымушае казаць пра адзінства паглядаў і мэтаў.

## У Лявона Мурашкі слаўны юбілей


Лявон Мурашка

Лявон Мурашка — гэта славуты бас Віленскай опэры, якога ў Вільні ўсе ведаюць і любяць. І ўсе ведаюць, што ён беларус. Ня толькі таму, што нарадзіўся 75 гадоў таму ў мястэчку Сіняўка (цяпер Клецкі раён). Бацька Лявона быў харавым рэгентам і яшчэ да вайны разам зь сям'ёю пераехаў у Вільню. Якраз у бацькавым хоры Лявон і пачаў сьпяваць. Пазьней ён вучыўся ў сьпевака «Ля Скалы» Сяргея Ўсьціновіча, які быў родам з Ашмян, а затым — у слыннага літоўскага тэнара Кіпраса Пятраўскаса. Але яшчэ ў гімназіі яму даваў урокі знакаміты кампазытар Канстанцін Галкоўскі. Сёньня ў рэпэртуары сп.Мурашкі сотні твораў, з выступамі ён аб'езьдзіў паўсьвету. Пасьля 25 гадоў працы ў Віленскай опэры сп.Мурашка кіруе хорам у Сьвятадухавым саборы каля Вострай Брамы. А яшчэ ён — прэзыдэнт Згуртаваньня Беларускіх Грамадзкіх Арганізацыяў Літвы. Палітыкай не займаецца, затое дбае, каб беларускую сярэднюю школу перарабіць на гімназію, каб аднавіць Віленскі беларускі музэй, каб разьвівалася тое, што для культуры і будучыні. Віншуем!

## Дыпляматы на більярдзе

Як паглядзеш, колькі народу сядзіць у пасольстве РБ у Літве, дык думаеш — божачкі, што ж гэты ўвесь народ там робіць! Ну, чуваць было, што за купленую энэргію перамаўляліся, бо не заплацілі, альбо што заапекаваліся мастацкай выставай, або — што высочваюць нейкія «антыбеларускія арганізацыі». Але ж ня столькі тых дывэрсантаў, каб такія штаты трымаць! А вось жа ёсьць занятак. Днямі дыпляматы РБ у Літве гулялі на більярдзе з калегамі з Казахстану, Расеі і Грузіі. Турнір цягнуўся дзесяць гадзін. Першае месца заняў грузін, другое казах, а за трэцяе біліся між сабою пасланцы РБ Тадэвуш Чачкоўскі і Віталь Нікнараў. Перамог Нікнараў. Калі дадаць пятае месца вайсковага аташэ пасольства РБ Аляксандра Бужана, дык каманда РБ разам набрала 45 балаў і стала пераможцай. На другім месцы — Казахстан, на трэцім — расейцы. Каму цікава, гулялі амэрыканскія партыі ў расейскі більярд. Ня ведаю, што гэта такое, але сымболіка захапляе.

## Літоўскія школы за мяжой

Сёлета ў краінах Эўропы працуе 80 літоўскіх выхаваўчых установаў рознага кшталту. Найбольшы прагрэс у гэтай справе адбываецца ў Калінінградзе і ў Беларусі. Болей стала літоўскіх вучняў у беларускіх вёсках Рымдзюны і Пеляса, адкрываюцца новыя нядзельныя школы ў Лідзе і вёсцы Вайнюны. Літоўцам надта залежыць, каб іхныя дзеці за мяжой вучыліся па-літоўску — грошы на тое выдзяляюцца наўпрост зь дзяржаўнага бюджэту. Як на маю галаву, дык хай бы болей было ў нас літоўскіх школаў. Бо там і да беларускай мовы зусім іншыя адносіны, чым у нашых, савецкіх.

Ліцьвін

# ДРУГІ ЭТАП КАЎКАСКАЙ ВАЙНЫ

У мінулую нядзелю раніцай некалькі соцень маджахедаў пад камандай Шаміля Басаева ўвайшлі з Чачэніі ў Дагестан і захапілі яшчэ чатыры паселішчы. Пачаўся басаеўскі другі этап вайны. Мэта маджахедаў — горад Хасаўюрт, які будзе абвешчаны сталіцай незалежнай ісламскай дзяржавы.


AP
Узялі ў палон

У тым, што так сапраўды будзе, пераконвае чачэнская вайна і першы этап вайны дагестанскай. Што ні паставіць на мэце каўказцы — усё дасягаецца. Адзіная самастойная роля расейскага боку — вывозіць авіяцыяй на Растоў трупы сваіх салдат. Абяцаньні генэралаў, артзачысткі і манатоннае, з дня ў дзень «каранмахічабанмахі» дыктараў маскоўскіх праграм — усё гэта выглядае ганебна і прымушае думаць пра сваё. Калі ў расейскай тэлевізіі паказваюць скалечаных 18-гадовых хлопцаў, немагчыма не параўнаць іх з нашымі. Адзінае адрозьненьне і адзінае, што пакуль ратуе нашых, — расейскі пашпарт, якога яны ня маюць і які Лукашэнка паабяцаў даць ім ужо сёлетняй восеньню.

Заўчора ІТАР-ТАСС паведаміла, што прычына расейскіх няўдач яшчэ і ў тым, што паўстанцы прымяняюць «сродкі радыёэлектроннага ўзьдзеяньня». У перакладзе гэта вось што значыць: жыхары аулаў прымяняюць адмысловую апаратуру для падаўленьня сыгналаў кіраваньня і сувязі вайсковых падразьдзяленьняў і сыстэмаў навядзеньня авіяцыі.

Праўда цяпер такая, што блізу траціны ўсяго Дагестану ахоплена супрацівам. Апроч свайго сайту ў Інтэрнэце (www.kavkaz.org), маджахеды маюць сваю радыёстанцыю, якая вяшчае ня толькі на Дагестан, але й на палову Паўночнага Каўказу, і тэлевізію, якая, як яны самі сьцьвярджаюць, ахоплівае 60% тэрыторыі краю. Днямі па гэтым тэлеканале выступіў камандзір дагестанскага атраду маджахедаў Шаміль Гергебельскі і запэўніў, што дапамога аулам Карамахі й Чабанмахі прыйдзе абавязкова. А ўжо ўчора паведамілі, што байцы ісламу з баямі прасунуліся да рысы 70 км ад Карамахі.

У суботу адбыўся магутны выбух на тэрыторыі ваеннага гарадку ў Буйнакску. У выніку быў зьнішчаны пяціпавярховы дом, у якім жылі расейскія афіцэры. Загінула да 50 чалавек, 103 было паранена. Ахвяраў становіцца ўсё болей. Выглядае, што ані вайсковая актыўнасьць, ані колькасьць ахвяраў у бліжэйшым часе зьніжацца ня будуць. Пачаўся другі этап вайны.

Як паведаміў у нядзелю на ТВ-6 генэрал-маёр Аляксандар Чэкалін, усяго ў Дагестане ад пачатку баёў загінулі 113 і параненыя 404 расейскія службоўцы.

Гары Куманецкі

# РОК-ВОСЕНЬ'99

***Нашы рок-зоркі правялі лета хто ў гастролях за мяжой, хто ў студыйнай працы, але ўсе яны рыхтуюцца да восеньскіх выступаў***

## NRM



Па выступе на «Басовішчы'99» у ліпені музыкі «NRM» засталіся ў Польшчы, каб на адной з варшаўскіх студыяў папрацаваць над новым альбомам. Са словаў Лявона Вольскага, новы альбом эклектычны і, у той жа час, яго яднае цяжкое гучаньне. Некаторыя зь песьняў упершыню паказваліся толькі на «Басовішчы'99», але большасьць беларускія слухачы мелі магчымасьць пачуць цягам году на тых ці іншых канцэртах у Беларусі. Прэзэнтацыя новага альбому адбудзецца ў першай дэкадзе кастрычніка.

Сярод бліжэйшых выступаў гурту — Менск, 8 верасьня і Беласток, 11 верасьня. А яшчэ «энэрамаўцы» маюць сюрпрыз для сваіх фэнаў. Яны рыхтуюцца ўзяць удзел у міжнародным фэстывалі пэрфомансу, які адбудзецца ў Менску ў першай дэкадзе верасьня. 7 верасьня ў Палацы Мастацтваў «энэрамаўцы» наладзяць імпрэзу «з элемэнтамі музыкі», але што менавіта — пакуль сакрэт.

## NEURODUBEL

Лідэр гурта Аляксандар Кулінковіч правёў лета за падрыхтоўкай новага альбому «Варсінкі і катышкі». Акрамя дзьвюх песень «Самалёты» і «С праздником!», якія прагучалі сёлета на некаторых імпрэзах, праграма цалкам новая і невядомая слухачам. Прэзэнтацыя альбому адбудзецца ў першай палове верасьня. Са словаў Кулінковіча, новы альбом будзе тэматычным працягам папярэдняга «Ахотніка й Сайгака», але па гучаньні наблізіцца да «раньняга Дзюбэляя», менш «камэрцыйнага», чым «Сайгак», але больш «растрындзяйскага». Што да канцэртнай дзейнасьці, у сувязі з тым, што гурт разьвітаўся з сваім клявішнікам Максам Івашыным, ідзе пошук замены. Пакуль дапамагаць «дзюбэлям» будзе клявішнік «Крамы».

Цягам лета галоўны беларускі тэлерокер Анатоль Вечар зрабіў два клíпы «ND» на песьні «Самалёты» і «С праздником!», якія на пачатку верасьня зьявіліся ў праграмах «Беларускі гіт-парад» і «Акалада».

## НОВАЕ НЕБА

Скончыла падрыхтоўку да выхаду новага CD-альбому пад назвай «Цэпэліны». Калі не лічыць зборных аўдыёкасэты «Выбранае» і кампакту «Новае Неба», гэта першая праграма па трохгадовым маўчаньні гурта. Кася Камоцкая тлумачыць такую, досыць вялікую, пярэрву падрыхтоўкай да сьвяткаваньня «надзвычайнай круглай даты». Семдзесят гадоў таму ў бэрлінскае неба ўзьняўся аэрастат LZ 127 «Graf Zeppelin», які зьдзейсьніў «Weltflug» — вакольсьветны пералёт. Тады жыхары «абедзьвюх Беларусяў» «глядзелі ўсьлед яму са зьдзіўленьнем» і «міжволі чакалі Каляды»...

Для Касі Камоцкай музычнае «чаканьне», якое пачалося ў 1991 годзе на ўзор штоpазовага пошуку біблейскага «Новага Неба», увасобілася ў канкрэтнай форме. Кася лічыць для сябе «Цэпэліны» этапным альбомам: «Ён вельмі жорсткі паводле гучаньня, цяжэй няма куды... Далей можа быць толькі вяртаньне да рамансаў ці экспэрымэнты ў па-за-рокавых жанрах музычнай сцэны... У адрозьненьне ад папярэдніх, досыць эклектычных паводле музычнага стылю і тэкстаў альбомаў, «Цэпэліны» — канцэптуальная праграма».







Сярод дзесяці прадстаўленых песьняў чатыры рымэйкі — «Ластаўка» й «Залатыя краты» на словы Анатоля Сыса, «Котка» і «Новае Неба» на словы Адама Глёбуса. У адрозьненьне ад апошніх «Go Home» (1995) і «Мая Краіна» (1996), напісаных амаль цалкам на словы Міхала Анемпадыстава, у «Цэпэлінах» тры «новыя» аўтары: Лера Сом («Месяц верасень»), тэкст Алеся Камоцкага паводле верша Віславы Шымборскай («Бомба») і дэбют у якасьці «рок-тэкставіка» аўтара «Нашай Нівы» Тацяны Сьнітко (патэнцыйны гіт «Восеньская калыханка для краіны»). Таксама ёсьць перапрацоўка народнай калядоўкі, тэкст «раньняга Анемпадыстава» «Начная варта» і, вядома, яголыя ж «Цэпэліны» — загалоўная песьня, якая дае настрой і музычную афарбоўку для ўсяго альбому.

Новая праграма ўжо «абкатвалася» на розных канцэртах у Беларусі і па-за яе межамі. Найперш дзякуючы працы Славы Кораня «Новае Неба» зарэкамэндавала сябе як «сталы», «сур'ёзны» і «канцэптуальны» музычны праект. Мяркую, менавіта праз гэтыя вартасьці цяжка-альтэрнатыўныя «Цэпэліны» яднаюцца з рамантычна-артавым альбомам — «Дзецьмі Чорнага Гораду», якім «Новае Неба» заявіла пра сябе ў 1991 годзе.

Прэзэнтацыя «Цэпэлінаў» плянуецца на кастрычнік — лістапад.

## ULIS



Рыхтуе да выхаду новы альбом. Лідэр гурта Слава Корань выбраў сабе цікавую, але складаную працу — рыхтаваць да выхаду дзьве праграмы — «Ulis» у і «Новага Неба». Часам жартуюць, што Слава піша спачатку для Касі, а пасьля «крадзе» для сябе. Насамрэч, канцэптуалізму і прафэсіяналізму Кораня, далібог, хопіць на ўсіх. На выступе на ўгодкавым «Басовішчы» Корань застаўся на «творчыя вакацыі» ў вядомым сярод беларускіх і польскіх art-ыстаў сядзібе-асяродку Лявона Тарасэвіча, што непадалёк ад Беластоку. Увосені чакаем плёну пошукаў «карэннага» беларускага «блукальніка»: новы альбом «Ulis» у амаль гатовы да выхаду.

## КРЫВІ

Пры канцы жніўня «Крыві» вярнуліся зь міжнароднага фолькавага фэстывалю «Rownica'99»,

**Больш падрабязную інфармацыю пра падзеі рок-восені шукайце на афіцыйных вэбстаронках гуртоў у інтэрнэце:**

**http://fly.to/nrm** (вэбсайт гурта «N.R.M.»), **http://fly.to/ulis** (старонка «ULIS»), а на старонцы **http://fly.to/bmagroup** (Беларускай Музычнай Альтэрнатывы) можна падпісацца на навіны пра беларускі рок па e-mail. На другую палову верасьня на адрасе **http://fly.to/kriwi** заплянаваная прэзэнтацыя афіцыйнага вэбсайту гурта «Крыві» і старонкі, прысьвечанай «Народнаму Альбому» (**http://fly.to/nalbom**), дзе ўпершыню(!) поўнасьцю будзе апублікаваная аднайменная п'еса.



# Алег Скрыпка: «ВОПЛІ ВІДАПЛЯСАВА»

***Калі 10 гадоў таму зьявіліся «Воплі Відаплясава», адразу стала зразумела, што гэта ня проста адна з многіх рок-камандаў, гэта — планка ўкраінскага року. Перад канцэртамі ў Менску лідэр групы Алег Скрыпка спаткаўся з журналістамі кіеўскай газэты «Дэнь»***

**Ёсьць ва Ўкраіне легендарны гурт «ВВ». За 10 гадоў існаваньня ягоныя музыкі сталіся амаль нацыянальнымі героямі (штось на ўзор беларускіх «Песьняроў» канца 60-х). Расейскамоўныя ў побыце, хлопцы сьпяваюць толькі па-ўкраінску — нават у часы некалькігадовага перабываньня ў Францыі, дзе, між іншым, запісалі разам з французамі арыгінальныя апрацоўкі ўкраінскіх народных песьняў.**

**...Як неспэцыяліст, ня буду засяроджвацца на музычных аспэктах іхнай «Вясны» (хаця выкарыстаньне архаічнага рытму й мэлясу вясьнянак мне па-дылетанцку падалося неймаверна складаным, вышуканым і вынаходлівым). Цудоўны й відэакліп «Вясны» зь нейкай спавітай цямрэчай постмадэрновай клуняй, дзе скамарохі ў лыжных шапачках і чырвоных бліскучых скафандрах круцяць жоран (сонечнае кола альбо, можа, жыцьцё?), распырскваючы зерне (веснавое праменьне, а можа — людзкія долі?).**

**Але на ўвесь гэты супэр-наіў і «народны прымітыў» паступова, з кожным новым прысьпевам («Весна, весна, весна, весна прийде! Весна, весна,весна, весна де моя!») накладаецца штосьці невясёлае й трывожнае. Сьпярша гэта толькі намёк: «Затанцюю радісний, зрадію до смерті». «Побіжим, покотимся, заведемо беседу» — зьвяртаецца радасны танцор не да каго іншага, як да гора-быды...**

**Далей ідзе намер зьнікнуць — о не, не ў Эўропе ці Амэрыцы, — а ў космасе, Сусьвеце, перадаўшы «по радіо» (!) «прощай, рідна батьківщино!» І нарэшце распачынаецца штось агулам гераічнае: «Чі ж мене не вистачить (!) загинути по весні?!» Адразу ж пасьля гэтых словаў да архаічнага мармытаньня абуджаных рачанак і крыніц дадаецца проста-ткі злавесны пошчак салаўёў — і гэта, калі не лічыць прысьпеву, апошнія словы песні.**

**Так вясна ходаецца зь зімою, так Юры перамагае зьмея.**

**Наталка Білацэрківец, «Фрагмэнты»**

**Алег Скрыпка:** Тры гады таму мы прыехалі з Францыі ва Ўкраіну зь вераю ў тое, што тут ужо можна і працаваць, і жыць. Менавіта для таго мы й вярнуліся. Але цяпер у нас пэрыяд вялікага расчараваньня. Бо краіна ўсё-такі не гатовая — існуе вялікі разрыў паміж бачным бокам шоў-бізнэсу і тымі працэсамі, якія сапраўды адбываюцца. Як кажуць прадстаўнікі шоў-бізнэсу: шоў ёсьць, а бізнэсу няма. Я ня ведаю, як выжываюць нашы эстрадныя калегі, але рокеры жывуць ня надта добра, бо асноўнага заробку артыстаў — адлічэньняў ад продажу альбомаў — у прынцыпе няма. Калі раней кампаніі абяцалі адсоткі з продажу (як, напрыклад, маскоўская «Gala-Records», зь якой мы супрацоўнічалі), дык тых адсоткаў ніхто нават у вочы ня бачыў, а цяпер кампаніі, што займаюцца распаўсюджаньнем, заяўляюць, што за альбомы зусім нічога ня будуць плаціць, бо альбом — гэта й так рэклама для гурта. Пра канцэрты іх арганізатары таксама цьвердзяць, што гэта найперш рэклама для нас і плюс яшчэ радасьць. Калі за мяжой шоў-бізнэс нармальна існуе, значыць, трэба нейк капіяваць іх і выкарыстоўваць у нашых умовах. Я спрабаваў гэта зрабіць. Як вынік — у леташнім лістападзе мы падпісваем кантракт зь фірмай УМПО (Украінскае мастацка-праваое аб'яднаньне), якая абяцала нам стварыць умовы для працы. На словах усё гучала прыгожа. Але цяпер яна не дазваляе нам граць канцэрты, выпусьціць ужо гатовы альбом і ўрэшце падае на нас у суд за тое, што мы адыгралі адзіны за паўгада канцэрт у Кіеве, які нам арганізавала Міністэрства культуры. Фірма лічыць нас сваёй уласнасьцю. У выніку гурт давядзецца змагацца за правы выступаць.

**— У савецкія часы артыстаў ігнаравала ўлада. Няўжо нічога не зьмянілася? Нядаўна памёр Анатоль Салаўяненка, вялікі сьпявак, якому ў апошнія гады толькі ў сьне сьнілася, што ён сьпявае са сцэны...**

— Вельмі добра сказаў Жванецкі: вялікае крывадушша разьбілася на вельмі маленькія, нібыта няшкодныя, але яны нагрувашчваюцца. А зь іншага боку, гісторыя шоў-бізнэсу, нават заходняга, сумная. Ня раз было так, што вядомы чалавек, выдатны прафэсіянал, пры канцы жыцьця аказваўся незапатрабаваны. Зусім не таму, што ён страціў прафэсійна ўменьні ці любоў народу. Але як наступства дзейнасьці тых ці іншых законаў — не людзкіх, а камэрцыйных. А тым больш законаў нашага недаразьвітага шоў-бізнэсу — аднаго артыста «зручна» раскручваць, другога нязручна. У іх нават ёсьць слэнг: «пакатаем гэтага артыста», а ў гэтага — «прэтэнзіяў зашмат». Што да нашага гурта, дык мы цяпер у любым выпадку «на гары». А што казаць пра малодшых хлапцоў? Калі раней былі нейкія падвалы, дзе можна было рэпэтаваць, дык дзе цяпер? Час вызначае музыку: 50—70-ыя былі гадамі рамантызму, і гурты ўсе былі незалежнымі, кожны — культурнай зьявай. Цяпер грамадзтва ператваралася ў грамадзтва масавага спажываньня, і культура таксама ўяўляе сабой прадукт масавага спажываньня. Таму законы, што існуюць у шоў-бізнэсе — гэта законы масавага спажываньня: ідзе тандэта, але зь яскравай этыкеткай. Сьпевакі ў пер'і ды бліскучках, экстравагантныя выбрыкі. На прафэсійным жаргоне сучасныя поп-альбомы называюць «кукламі». Бо там дзьве песьні — зьверху адна й знізу адна — раскручаныя на ТВ, а ўсярэдзіне — пуста. Артысты ў гэтым наймэнш вінаватыя.

**— Наколькі часта Вас запрашаюць на ТВ?**

— Нашы канцэрты тэлекампаніі здымаюць сыстэматычна. З аднаго боку, гэта рэклама для гурта, але з другога, каб паказваць канцэрт на ТВ, трэба яго здымаць інакш. Я ня ведаю, як мяне ўспры-



У гэтым будынку адбывалася Рада Случчыны



Памятны крыж у Грозаве



Грозава. Сядзіба Радзівілаў. Тут фармаваўся Грозаўскі полк



Фота Алега Дзярновіча.

Пад час экспэдыцыі. Пытаньні задае Ніна Стужынская

# ЭКСПЭДЫЦЫЯ ПА СЬЛЯДАХ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

***Праграма «Вусная гісторыя» для студэнтаў Аддзяленьня Найноўшай гісторыі ў Беларускім Калегіюме распачынаецца зь першага курсу. Гэта ня проста збор успамінаў, але фармаваньне новага корпусу крыніц.***

***Для дасьледаваньня абралі Случчыну і тэму Слуцкага паўстаньня 1920 году. Якія сьляды ў сьвядомасьці людзей пакінула падзея, такая важная для тварэньня нацыянальнага міту, і, адначасова, падлеглая бесьперапынным нападам савецкай і нэасавецкай гістарыяграфіі?***

***Такім чынам, 23 жніўня група студэнтаў Калегіюму, а таксама выкладчыкі — Ніна Стужынская ды аўтар гэтых радкоў, выправіліся ў падарожжа.***

## Гістарыяграфічная інтрыга

Спачатку постсавецкая, а потым і нэасавецкая плыні выпрацавалі свой варыянт стаўленьня да падзеі, што атрымала назву «Слуцкае паўстаньне». Мэта «новага погляду» — мінімізацыя «шкоднага ўплыву» сьведчаньняў самаарганізацыі і актыўнасьці беларусаў для маналіту савецкай гісторыі. Галоўныя тэзы гэтага падыходу дзьве:

1. «Такой гістарычнай падзеі як Слуцкае паўстаньне не было»;

2. «Ніякай абароны Слуцкая брыгада не трымала і такімі сіламі не магла трымаць» (цытаты паводле «Нарысаў гісторыі Беларусі. Частка 2» (Менск, 1995)).

Для ілюстрацыі спашлюся на акадэміка Іларыёна Ігнаценку, які ўважаецца за лібэральнага гісторыка і які падрыхтаваў адмысловы разьдзел для «Нарысаў гісторыі Беларусі»: «Аб якім паўстаньні магла ісьці размова, калі гэты павет быў акупаваны польскімі войскамі, якія па дагавору аб перамір'і рыхтаваліся адысьці за дэмаркацыйную лінію. Чырвонай Арміі ў раёне Слуцку не было. Узьнікае пытаньне: супраць каго было паўстаньне?»

## Страхі, стэрэатыпы, прызнаньні

Любыя размовы ў сёньняшняй беларускай правінцыі зь незнаёмымі людзьмі пачынаюцца зь недаверу. «А мяне не арыштуюць?» — так у нас і запыталася старая кабета ў вёсцы Шышчыцы.

У сп-ні Стужынскай на руках быў сьпіс удзельнікаў паўстаньня, складзены паводле зьвестак, у тым ліку, з архіву КГБ. Паводле гэтага сьпісу, зь вёскі Шышчыцы паходзіць адзін з удзельнікаў паўстаньня — Давыдоўскі.

Сёньня ў Шышчыцах пражывае толькі адна сям'я Давыдоўскіх. Мы завіталі да сп. Паўла Давыдоўскага*:

«— Можа гэта Ваш бацька быў? — запыталася Н.Стужынская.

— Не, ён ня быў там! — адказаў П.Давыдоўскі.

— А калі ён памёр?

— Ён не памёр, а пагіб на фронце ў 1944. Яму было 45 гадоў, калі яго ў вармію забралі.

— А калі яго забралі — у сорак чацьвёртым?

— У сорак чацьвёртым, калі рускія прыйшлі сюды ўжо, калі асвабаджалі Беларусь, ён ушоў на фронт...

— А самі Вы зь якога году?

— З дваццаць сядзьмога.

— Дык і ня памятаеце — ці мог Ваш бацька быць там?

— Да я знаю, што ён ня быў тада ў гэтых слуцкіх партызанах...

— А якія партызаны?

— Гэта калі было гэтае Слуцкае вастаньне, калі палякі былі тут. Але ён ня ўчастваваў там.

— А ў вёсцы хто ўдзельнічаў?

— Ніхто нічаго!

— Тут вашыя настаўніцы казалі, што Ваш бацька пераходзіў мяжу...

— Ня ён гэта! У калхозе ён быў. Сорак пяць год яму было, як яго узялі ў армію».

Аўгіньня Грыцкевіч** (якая нарадзілася ў 1890 годзе, а, на жаль, памерла летась) са старажытнай выбранецкай вёскі Варкавічы, ня чула пра Слуцкае паўстаньне, але прыпамінала, што моладзь запісвалася ў войска «супраць палякаў і бальшавікоў» — гэта абсалютна адпавядае лёзунгу беларускіх эсэраў «Ні паноў, ні камуністаў». Эсэры вялі рэй у Слуцкім паўстаньні.

Сустрэліся мы і з зусім іншай інтэрпрэтацыяй. У мястэчку Грозава, дзе ў лістападзе 1920-га быў сфармаваны Грозаўскі полк (адзін з двух палкоў 1-й Слуцкай брыгады стральцоў), прадстаўнік мясцовага сельсавету пераконваў нас, што ніякага паўстаньня не было. Пра гэта яму нібыта паведаміў краязнаўца з Капыля Абрамчык.

У Слуцкі краязнаўчы музэй мы патрапілі ўжо пасьля таго, як правялі запіс успамінаў. Напачатку ў музэі нас чакала расчараваньне — ва ўсёй экспазыцыі — ніводнай згадкі пра тыя падзеі. Ужо пасьля высьветлілася, што музэй штогод у лістападзе ладзіць выставы, прысьвечаныя паўстаньню. А ў сховішчах мы змаглі пазнаёміцца з дакумэнтамі некаторых паўстанцаў, патрымалі ў руках пашпарт БНР сябры Рады Случчыны Васіля Русака.

## Тапаграфіі

Пад час вандроўкі мы пабывалі ва ўсіх значных для паўстаньня населеных пунктах. На Случчыне захаваліся ня толькі вусныя, але й матэрыяльныя сьведчаньні падзеяў 1920 году. Ня так даўна зьявіліся знакі ўшанаваньня — былі ўстаноўленыя памятныя крыжы ў Семежаве і Грозаве.

У Семежаве пасьля эвакуацыі са Слуцку знаходзілася Рада. Менавіта тут, на цэнтральным пляцы старажытнага мястэчка, 25 лістапада адбыўся парад беларускіх аддзелаў. Праз два дні пачаліся баявыя дзеяньні. На крыжы, устаноўленым у 1992 годзе, нават захавалася стужка ў колерах нацыянальнага сьцягу. Як узгадваюць сьведкі падзеяў 1920 году, менавіта насельніцтва Семежава было найбольш шчодрым да беларускіх вайскоўцаў і іхных патрэбаў.

Мястэчка Грозава вядомае яшчэ зь першай паловы XVI ст. Пад час паўстаньня тут фармаваўся Грозаўскі полк — запіс адбываўся ў даўнім палацы Радзівілаў. Гэты клясыцыстычны будынак другой паловы XVIII ст. і сёньня ўзвышаецца на ўскраіне вёскі. Яшчэ ў 1980-х там месьцілася сярэдняя школа. Сёньня будынак у паўразбураным стане.

У цэнтры Грозава нашы сучасьнікі ў 1994 годзе таксама паставілі памятны крыж. Можа быць з-за таго, што шыльда на крыжы для некага падалася занадта кідкай (з «Пагоняй»), яна выклікала неадэкватную рэакцыю — пляма рудой фарбы засталася на гэтай шыльдзе.

У мястэчку Вызна — там крыж устанаўлівалі два разы і абодва разы дэмантавалі. Кажуць, што да выкопваньня крыжа непасрэдна далучыўся тутэйшы праваслаўны сьвятар. У 1923 годзе само мястэчка было перайменаванае ў Чырвоную Слабаду.

Яшчэ адзін гістарычны будынак, непасрэдна зьвязаны з паўстаньнем, знаходзіцца ў Слуцку — гэта Дом шляхецкага сходу. Тут, у старасвецкай камяніцы адбыўся зьезд Случчыны. Цяпер тут — краязнаўчы музэй. Але ўсе старыя будынкі ў Слуцку так ці інакш маюць дачыненьне да людзей паўстаньня. У камэрцыйнай вучэльні, у знакамітай гімназіі, у духоўнай вучэльні займаліся будучыя ўдзельнікі тых падзеяў. Ня думаю, што некалі ўсе гэтыя будынкі трэба будзе пазавешваць шыльдамі. Найлепшая памяць — захаваньне і так ужо панявечанага гістарычнага асяродзьдзя, добры стан будынкаў, у якіх жылі, працавалі й вучыліся людзі, што ў часы разлому абвесьцілі Случчыну часткаю БНР ды пачалі рыхтавацца да абароны сваёй Рэспублікі.



Семежава. Памятны крыж

## Тэрміналёгія

Нагадаю, адна з асноўных тэзаў нэасавецкай гістарыяграфіі гучыць наступным чынам: «Ніякага паўстаньня не было». Беручы пад увагу сутнасныя ацэнкі тых падзеяў, з гэтым можна пагадзіцца.

Падзеі лістапада—сьнежня 1920 году былі на Случчыне актам дзяржаватварэньня. Нацыянальны камітэт як орган мясцовага самакіраваньня арганізаваў абраньне беларускіх камітэтаў замест прызначаных польскай адміністрацыяй войтаў у валасьцях і солтысаў у вёсках. Намаганьнямі Нацыянальнага камітэту былі створаныя каапэратыўныя саюзы, сфармаваная беларуская міліцыя — узброеная самаахова; наладжваліся мэханізмы сацыяльнай дапамогі. 15—16 лістапада адбыўся зьезд Случчыны, на якім 115 паўнамоцных прадстаўнікоў жыхароў рэгіёну сфармавалі Раду Случчыны — орган дзяржаўнае ўлады. Зьезд

абвесьціў Случчыну часткаю БНР. Распачалося фармаваньне ўзброеных сілаў — і за тры дні паўстала Слуцкая брыгада, якая налічвала 4 тысячы чалавек.

Апынуўшыся ў нэўтральнай зоне, Слуцкая брыгада пад ціскам пераўзыходзячых сілаў Чырвонай Арміі вымушаная была адступаць на захад. Эвакуацыя Слуцку скончылася 24 лістапада, Рада Случчыны і Вайенная стаўка пераехалі ў мястэчка Семежава, куды сьцяклося да 15 тысяч чалавек. 1-ы Слуцкі полк заняў участак фронту ад Семежава да Вызны працягласьцю прыблізна 20 км. Грозаўскі полк заняў абарону ў напрамку на Капыль. Баявыя дзеяньні пачаліся 27 лістапада.

Бальшавікі маштабны наступ распачалі 7 сьнежня, кінуўшы на Слуцкую брыгаду 8-ю і 17-ю дывізіі. Такія важныя пункты як Семежава і Вызна некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі. 28 сьнежня Слуцкая брыгада вымушаная была адступіць і перайсьці мяжу з Польшчай, дзе было інтэрнавана больш за 1,5 тысячы афіцэраў і жаўнераў. Частка Слуцкай брыгады (каля 400 чалавек) на чале з афіцэрамі засталася ў нэўтральнай зоне для партызанскіх дзеяньняў. Некаторыя аддзелы пазьней увайшлі ў склад паўстанцкай сялянскай арміі «Зялёны Дуб».

Таму можна казаць, што падзеі на Случчыне ў лістападзе—сьнежні 1920-га — гэта самаарганізацыя і самаабарона жыхароў Слуцкага павету. З увагі на вайсковы бок падзеяў многія прадстаўнікі нацыянал-дэмакратычнага лягеру ўжываюць назву Слуцкі збройны чын. Сёлета мы зафіксавалі назву «слуцкія партызаны».

Між тым, ніводная з гэтых назваў не ахоплівае цалкам маштаб тых падзеяў — фармаваньне дзяржаўнага мэханізму Беларускай Народнай Рэспублікі на тэрыторыі Слуцкага павету. Пры гэтым былі сфармаваныя як органы цывільнай улады, так і вайсковай. Узброеным сілам БНР на Случчыне прыйшлося весьці абарончыя баі. Нават і цяпер зьдзіўляюць хуткія тэмпы ды зладжанасьць фармаваньня ўсіх органаў дзяржаўнае ўлады, а асабліва — Слуцкай брыгады. Гэта дадаткова сьведчыць, што тыя падзеі — не спантанны выступ і ня крок адчаю. Беларускае сялянства ўжо выдатна ўяўляла, хто ідзе на нашу зямлю з Усходу. Агульнай была таксама незадаволенасьць польскімі ўладамі. У такіх умовах дзейнасьць Рады Случчыны ўспрымалася як паўставаньне ўласнай законнай улады.

Вяртаючыся да тэрміналягічнай праблемы, адзначым, што крыху пазьней самі ўдзельнікі тых падзеяў выкарыстоўвалі азначэньне «Слуцкае паўстаньне». На беларускай нацыянальна-палітычнай нарадзе ў Празе 29 верасьня 1921 году была прынятая рэзалюцыя «Аб Слуцкім паўстаньні», якое характарызавана як «нацыянальнае паўстаньне за незалежнасьць Беларусі».

**Алег Дзярновіч**

** Запіс Ірыны Кашталян.*
*** Успаміны Аўгіньні Грыцкевіч запісала Ніна Стужынская.*

# Праз 50 гадоў

Сёньня часта думаюць, што беларускія пісьменнікі ў савецкія часы не пісалі «ў шуфляду». Некаторыя пісалі. Аднак большасьць іх твораў пакуль схаваная ў архівах, пераважна ў крымінальных справах гэтых яшчэ малавядомых людзей... У час самых жорсткіх сталінскіх рэпрэсіяў у Заходняй Беларусі, пры канцы 1940-х антысавецкія вершы пісаў слонімец Уладзімер Шундрык. І яму пашчасьціла пазьбегнуць «кіпцюроў ГПУ».

Уладзімер Шундрык нарадзіўся ў 1929 годзе ў Слоніме. Пад час нямецкай акупацыі вучыўся ў слонімскай прагімназіі, быў дружыновым Саюзу Беларускай Моладзі. Менавіта ў СБМ Уладзімер усьвядоміў сябе беларусам, бязьмежна палюбіў Бацькаўшчыну-Беларусь. Разам зь сябрамі маршаваў пад бел-чырвона-белым сьцягам слонімскімі вуліцамі, сьпяваючы нацыянальныя песьні...

Яшчэ ў вайну Ўладзімер пачаў пісаць вершы. Першы зь іх надрукаваў у «Баранавіцкай газэце». Вядомы паэт Сяргей Новік-Пяюн, які тады жыў у Слоніме, апекаваўся маладым паэтам, даваў яму беларускія кніжкі. У лісьце ад 12 лютага 1943 году С.Новік-Пяюн пісаў Шундрыку: «Даражэнькі Ўладзік!.. Як прыпомню Тваё апавяданьне «Аб нябожчыку», дык сьмяюся ад шчырага сэрца, бо вельмі яно вясёлае й мне вельмі падабаецца. Пішы больш, будзеш маладзец! Паэтам Ты будзеш напэўна! Толькі вучыся старанна й шмат чытай добрых кніжак».

Летам 1944 году кіраўніцтва СБМ выехала на Захад, а большасьць шарагоўых сяброў арганізацыі засталася на Бацькаўшчыне. Застаўся ў Слоніме і Ўладзімер Шундрык. На яго вачах зьнікалі людзі, арыштаваныя НКВД, а сярод іх і Сяргей Новік-Пяюн. Гэта яшчэ больш умацавала Ўладзімера ў думцы, што савецкая ўлада — акупацыйная. Некаторыя яго знаёмыя і сябры сталі на шлях супрацíву бальшавікам. Прапаноўвалі далучыцца да «Чорнай кошкі» і Шундрыку, але ён тады хацеў вучыцца, а не партызаніць. У 1947 годзе паехаў у Гародню, паступіў у настаўніцкі інстытут, навучаўся беларускай мовы й літаратуры. Хаваючыся ў пустых аўдыторыях, пісаў патрыятычныя вершы, якія чытаў некалькім сябрам каля Калоскай царквы. Усе рукапісы Ўладзімер пазьней спаліў, а ў ягонай памяці застаўся толькі адзін верш «Мы — вольная моладзь». Праўда, захаваўся яшчэ сшытак з апавяданьнямі, якія Шундрык пісаў у 1949 годзе. Гэтыя яго творы прасякнуты бязьмежным патрыятызмам, любоўю да Бацькаўшчыны-Беларусі, настальгіяй па тых часах, калі дзейнічаў Саюз Беларускай Моладзі.



*Уладзімер Шундрык, 1944 г.*

Уладзімер Шундрык усё жыцьцё адчуваў да сябе пільную ўвагу КГБ. Органы ведалі, што Шундрык быў дружыновым СБМ, што сымпатыяў да савецкай улады ня мае. Аднак яго не арыштоўвалі, тым больш, што часы зьмяніліся — неўзабаве памёр Сталін. Пасьля заканчэньня інстытуту прасіўся на працу ў Заходнюю Беларусь, але адправілі ў Менскую вобласьць. Толькі праз шэсьць гадоў, у 1957-м, яго адпусьцілі на Слонімшчыну. Шундрык ледзь уладкаваўся ў Дзеравянчыцкую школу, пасьля ў Альбэрцінскую. Паўсюль бралі яго на працу «часова», ставіліся з падазронасьцю. Уладзімер Шундрык заўсёды гаварыў па-беларуску, што не падабалася яго начальству (як правіла, чужынцам). А яшчэ ён дома захоўваў «нацыяналістычную» літаратуру: гадавікі часапісаў «Новы шлях», «Беларус на варце», шматлікія кніжкі. Доўгі час захоўваў Шундрык і інфармацыю, якую перадаў яму перад сьмерцю ягоны дзядзька, былы пасол польскага Сэйму, вязень бальшавіцкіх канцлягераў Павал Крынчык. Нібыта ў 30-х гадах у БССР існавала антысавецкае падпольле, якое выбрала падпольны ўрад, куды ўваходзіў і Крынчык. А пасьля пачаліся арышты. Напэўна, Крынчык быў адзіны з кіраўніцтва падпольля, які вярнуўся з канцлягераў...

Толькі на пачатку 1990-х Шундрык уздыхнуў з палёгкай і ўжо не хаваў, што піша вершы, пачаў іх друкаваць у газэтах.

**Сяргей ЁРШ**

*МЫ – ВОЛЬНАЯ МОЛАДЗЬ*

*Ніхто нас ніколі ня зможа прымусіць*
*Пакорна стагнаць пад маскоўскай пятой.*
*Мы – вольная моладзь, сыны Беларусі,*
*Усіх узьняла нас нянавісьць на бой!*

*У грозных атаках крывіцкіх калёнаў*
*За працаю дружнай, і ноччу, і днём*
*Мы помнім заўсёды, што вораг шалёны*
*Імкнецца надзець Беларусі ярмо.*

*І крочачы ў першых радах на змаганьне,*
*У баях здабываючы вольнасьць і лёс,*
*Клянёмся адпомсціць за крыўды і раны,*
*Што дзікі маскаль Беларусі нанёс.*

*Ні зьдзекам, ні кроўю злачынцы ня змогуць*
*Згасіць наш сьвяты і бязьлітасны гнеў.*
*Гарыць ён, пакуль бальшавіцкую погань*
*Дачыста са сьвету мы ўсю не сатрэм!*

*1948–49 г.*

*У аўдыторыі Гарадзенскага настаўніцкага інстытуту, 1949 г. У.Шундрык сядзіць на пярэднім пляне (сярод дзяўчат)*



# ВЕРАСЕНЬ 1939: Прадбачаньне Пімена Панчанкі

60 гадоў таму, 17 верасьня 1939 г., распачаўся, як дасюль пішуць у падручніках, «вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну». Савецкі Саюз нанёс сьмяротны ўдар у сьпіну Польскае Дзяржавы, якая ў той момант па-геройску стрымлівала націск нямецкае ваеннае армады. Польская акупацыя заходніх тэрыторыяў нашае краіны зьмянілася на яшчэ больш жорсткае панаваньне Саветаў.

Кожны больш-менш разважлівы чалавек мог прадбачыць менавіта такое разьвіцьцё падзеяў ужо пасьля заключэньня сумнавядомае савецка-нямецкае дамовы ад 23 жніўня 1939 г., нават калі ён і не здагадваўся пра існаваньне ня менш сумнавядомых «сакрэтных пратаколаў». Пасьля ж 1 верасьня супольныя савецка-нямецкія пляны ўвогуле ўжо сталіся сапраўдным «сакрэтам Палішынэля». Блізкая вайна робіцца ці не аснойнаю тэмаю ўсіх прыватных размоваў у БССР. Тым ня менш, афіцыйна ўся інфармацыя, зьвязаная з маючымі адбыцца падзеямі, застаецца «зусім сакрэтнай», і НКВД пільна адсочвае ўсе «ўцечкі».

Пра гэта яшчэ раз пераканаўча сьведчыць дакумэнт, які быў выяўлены мноюу ў фондах Нацыянальнага архіву Беларусі й зараз прапануецца ўвазе шаноўных чытачоў «НН». Асаблівую цікавасьць, на мой погляд, надае яму асоба «галоўнага героя» — пазьнейшага народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі. Нельга не адзначыць, што дакладнасьць ягоных прадказаньняў робіць гонар інфармаванасьці загадчыка «ЛіМ»аўскага аддзелу (тым больш, калі ён сапраўды атрымаў гэтыя зьвесткі ня ў НКВДе). Варта зьвярнуць увагу й на «другі плян» дакумэнту. Напрыклад, ня можа ня ўразіць колькасьць «крыніцаў» («источников») НКВД у асяродзьдзі беларускіх савецкіх пісьменьнікаў — у невялікай па аб'ёме дакладной запісцы згадваюцца ажно дзьве такія пэрсоны.

Дакумэнт падаецца ў маім перакладзе з расейскай з захаваньнем стылістычных асаблівасьцяў арыгіналу.

**Ігар Лялькоў**

ЗУСІМ САКРЭТНА
САКРАТАРУ ЦК КП(б) БЕЛАРУСІ
таварышу ПАНАМАРЭНКУ
гор. МЕНСК

Загадчык паэтычнага аддзелу рэдакцыі газ[эты] «Літаратура і Мастацтва» ПАНЧАНКА Пімен нашай крыніцы распавёў, што 7-га верасьня г[этага] г[оду] рэдактара газэты ГУРСКАГА выклікалі ў ЦК КП(б)Б, і ён тэрмінова складаў сьпіс беларускіх пісьменьнікаў, якія могуць перакладаць з расейскай мовы на беларускую [і] наадварот.

ПАНЧАНКА крыніцы заявіў, што яго выклікалі ў НКВД. У працэсе далейшае размовы ПАНЧАНКА крыніцы распавёў, што яму вядома пра тое, што хутка Заходняя Беларусь будзе акупаваная й далучаная да нас. Дзеля гэтага йдзе падрыхтоўка. Пра тое быццам бы ў нас зь немцамі ёсьць дамоўленасьць, што яны дойдуць толькі да Заходняй Беларусі й Украіны. Ва ўмовах агульнае панікі ў Заходняй Беларусі й Украіне пры нашым актыўным удзеле пачнецца рэвалюцыя, кампартыя Заходняе Беларусі й Украіны будзе прасіць СССР аб дапамозе й аб далучэньні да Савецкага Саюзу. Пасьля гэтага Чырвоная Армія акупуе Заходнюю Беларусь і Ўкраіну. Гэтая акупацыя здарылася б нават і ў тым выпадку, калі б зь немцамі не было дамоўленасьці, таму што мы на гэтыя раёны большыя прэтэндэнты, чым немцы, бо ж мы іх згубілі паводле Берасьцейскага міру, а немцы возьмуць свае раёны. Заходняя Беларусь будзе далучаная да нас. Дзеля гэтай падзеі рыхтуецца й папера, і ўлёткі, і кадры, і ўрадавыя дакумэнты — усё.

Шмат каго з нас, — пісьменьнікаў, настаўнікаў, партыйных ды іншых працаўнікоў, — перакінуць у Вільню, Беласток, Баранавічы. Там на беларускай і расейскай мовах пачнуць выдаваць дэкрэты, усе [іншыя] дакумэнты, [пачнуць] працаваць школы, створаць асобныя вобласьці. У сувязі з гэтым і складаецца сьпіс ГУРСКАГА. Усё ў нас амаль што гатовае: армія, сканфіскаваныя ўсе аўтамашыны, матацыклы, папера й нават ровары.

ПАНЧАНКА ўсё вышэйсказанае паведаміў таксама выкладчыку Папярнянскае школы Менскага раёну ГРАМОВІЧУ Івану, які распавёў пра гэта нашай крыніцы ў прысутнасьці выкладчыка Каладзішчанскае сярэдняе школы НЯХАЯ Рыгора.

Для даведкі паведамляю, што ПАНЧАНКА Пімен у НКВД БССР не выклікаўся.

НАРОДНЫ КАМІСАР УНУТРАНЫХ СПРАВАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР [Подпіс]
(Л.ЦАНАВА)

«14» верасьня 1939 году
№ 5409/4
г. МЕНСК.

*Машынапіс, арыгінал. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, фонд 4, вопіс 21, справа 1690, аркушы 282-283.*



Малюнак Веры Лабко

## Славамір Адамовіч

МНЕ СЬНІЛАСЯ

Мне сьнілася: восень і восвы,
дзедаў запушчаны хутар,
за пуняй старыя калёсы,
у хаце — новы кампутар,
блакітны квадрат манітору
фармуе продкаў абліччы
на фоне родных прастораў,
у промнях Вечнага Зьнічу,
скаціна вандруе з поля,
хвастамі б'ючы гульліва,
сабака з катом сваволіць,
і сьпее жоўтая сьліва,
няма ні здрады, ні войнаў,
спакой і любоў над Краем,
і нехта, прыгожы і стройны,
назваў гэта нашым раем.

## Алекс

* * *

Мне падабаецца шукаць
Неіснуючыя адказы
У перапівах валасоў
Пясчаных хваляў на плячох.

І час ад часу адчуваць
Блакітных ракавінак позірк,
Якія ад мяне схавалі
Даўгія вейкі у трысьнёг.

## Алена Аляксандрава

A.N.

Я зьбегла ад сэнсоўнасьці жыцьця —
Памкнуўшыся за мараю нязбытнай —
Чакаць твайго каханьня і нібыта
Ў адчаі йсьці ў бясконцасьць небыцьця.
Мая рэальнасьць — поўны занялад,
Які не скасаваць ніякай зброяй.
Трызьню табой, а ты вар'яцкай мрояй
Мой неабсяжны засьціў далягляд.
Імклівы дождж раз-пораз мне шаптаў
У вушы сваім мокрым пацалункам,
Каб я ў яго шукала паратунку,
І прагна вусны кроплямі шукаў.
Настойліва адзежу расхінаў
Дрыготкі вецер, лашчыў мае грудзі,
Ён уначы любіў мяне папудзіць,
І косы расплятаць мне пачынаў.
Раўніва сонца дыхала з-за хмар,
Маркоцячыся доўгасным расстаньнем,
І горача прачнуўшыся сьвітаньнем,
Пяшчотаю мне запаціла твар.
А ты, Алесь, ты выкрасьліў абсяг,
Ты вынішчыў бясконцасьць маіх думак.
Я страціла апошні паратунак,
Ты — мой канец, пачатак і працяг...

## Натальля Ермаліцкая

* * *

Я ў сябе зазірнула
І скарб цудоўны знайшла.
Там сьлёз маіх камяні
Ляжаць, як бліскучыя промні.
Сьлязінкі сталі радасьцю маёй,
Я імі з вамі падзялюся.
Любоў мая зьлiецца з вышыней.
Я больш нічога не баюся!

## Галіна Казак

ВОГНЕННЫ РАНАК

Ты прыйшоў да мяне з маіх募араў і
сноў,
Я чакаю цябе і кахаю наноў.
Не бянтэжаць мяне твае моцныя рукі,
Я кахаю цябе і бяру на парукі.
Я чакаю цябе зь першай зорачкай зь неба,
Мабыць, ты майго сэрца жывая патрэба,
Мабыць, ты майго лёсу другая палова,
Я сябе дару́чаю табе дэталёва.
Мне шкада таго часу, што плыў паміж
намі,
Нібы зносіў яго вал магутны цунамі,
А цяпер выпадкова ён зьмяніў свой
напрамак,
Адшукаў нас з табою наш вогненны ранак.

## Ігар Камікадзэ

СІЗАрусія

Нам жывецца тут спакойна і шчасьліва,
І баяцца нам няма чаго, пакуль
Міма нашых вокнаў крочыць — міма! —
Нас не заўважаючы, патруль.
Цуда-хлопцы ў бронекамізэльках —
Каска, палка, газ і аўтамат.
Ёсьць яшчэ ў каморы вольны зэдлік,
І таму ідуць на прамэнад,
Закусіўшы піва чакалядкай,
Шчырыя ахоўнікі парадку,
Берагчы яго — на ўласны лад.
Патлумачыць — матам і па карку,
Даць «чаромхі» пах пакаштаваць,
І нарэшце ўсіх на Валадарку
Запрасіць на ноч пагасьціваць.
Там жывецца ціха і шчасьліва,
І баяцца там няма чаго, пакуль
Міма нашых кратаў крочыць — міма! —
Намі задаволены патруль.

## Вадзім Карцаў

НЯГЕГЛАСЬЦЬ І ГЕРАІЗМ

Нягеглась неабавязкова спараджае
Такую самую нягеглась, як сама.
Здараецца, нягеглік учыняе
Такое, што ўражвае, зьдзіўляе
Ступенькою гераічнасьці сваёю
І дзіўнай адпаведнасьцю героя
Пададзенаму ў слоўніку значэньню
І тлумачэньню тэрміну «герой».
Напрыклад, змадзлюем выпадак
магчымы,
Калі хлапец, якога абыходзілі
дзяўчыны,
Бо кволы быў і непрыгожы зь нейкае
прычыны,
Пускае пад адхон цягнік варожы, дзе
машыны
І асабовы склад пад кіраўніцтвам
генэрала,
Які прыгожы, сьмелы, ды адпавядае мала
Пададзенаму ў слоўніку значэньню
І тлумачэньню тэрміну «герой».

## Тацяна Кветка

* * *

Гэта ўжо, відаць, наканаваньне:
Па цярністых сьцежках мне ісьці
І зямлю сваю шукаць, як ратаваньне
З багны жорсткасьці і вечнае хлусьні.
Па расінках, па бліскучых кроплях
Беларускасьць родную зьбіраць,
І на мапе сьвету, ды і ў сэрцы
Беларусь нанова адкрываць.

## Яўхім Корчак

* * *

Дзьве лініі жаночага сьцягна
павольна падымаюцца ўверх.
Так хочацца па іх прайсьці да дна,
хоць кажа Біблія, што гэта грэх.
А хочацца прайсьці па рэках ног
да месца, дзе зьліваюцца яны.
Мяне і іх прыдумаў, пэўна, Бог
у садзе райскім у пару вясны.
Бог ёсьць любоў! І гэта — абсалют!
І мае рукі, быццам караблі,
плывуць туды, дзе ёсьць для іх прыют,
дзе грэх даруецца
сьвятой вадой любві.

## Вера Ліпская

* * *

На белым полі аркуша ізноў я
Слоў прыкладу раўнюткія сьцяжынкі.
Тваё імя чытаю ў міжрадкоўях,
І блытаюцца рыфмаў павуцінкі.

Што маю? Выпадковыя спатканьні
Ды позірк, перахоплены адчайна.
На скарб няхітры скваліцца ня стане
Ніхто. А ўсё ж яго хаваю дбайна,

Хаваю ў вершаваным лябірынце,
Дзе толькі тваё імя ў міжрадкоўях
Мне будзе Арыяднінаю ніткай,
Як безнадзейна заблукаю зноў я.

## Мая

* * *

Сваёй
нянавісьцю
ты зацягваеш
усіх у сьвет
дзе не засталося
нічога — толькі пустэльня.
Што з таго,
калі я навучуся
трываць свой боль,
забудуся пра сьлёзы.
Ты кажаш, каб выжыць, трэба
стаць цьвёрдай і бязьлітаснай,
згубіць душу і сэрца,
аддаўшы іх д'яблу.
Але я не магу так,
і вынікам тваіх стараньняў
будуць толькі мае спробы
больш ніколі не сустракацца
і бегчы далей, заўважыўшы
падобную да цябе.
Табе ніколі ўжо ня прыйдзецца
спазнаць,
што чалавек ня вінен быць такім,
што ён усё ж мусіць час ад часу
марыць,
забыўшыся на практыку й разьлік.
Я папярэджвала, а ты ня слухала,
выплёсквала на мяне
порцыі
сваёй нянавісьці і злосьці,
якія быццам ваўчыныя зграі, ад якіх
уцякаеш,
і толькі гэта здаецца паратункам...
Я выратоўваюся, ты — застаесься
адна.

## Вадзянік Няміскі

МУЖЫКІ

На жанчынах жыцьцё трымалася,
Ды маліліся ўсе бацькі,
Каб паболей хлапцоў нараджалася,
Бо патрэбны былі мужыкі.
Дапамога ад іх чакалася:
Розум, годнасьць і кулакі.
Будзе шчасьце, бацькам здавалася,
Калі вырастуць мужыкі.
Не скараліся акупацыі,
Не мянялі на пятакі
Ўласны гонар, і мелі рацыю
Беларускія мужыкі.
Гналі ворага з краю роднага:
Ні татары, ні крыжакі
Не забудуць народу годнага.
Моцна білі іх мужыкі!
Асьвятляючы шлях паходняю
Ў бой сьмяротны ішлі палкі.
Пад сьвятою сваёй Пагоняю
Баранілі край мужыкі.
Колькі славы здабыта продкамі,
Мы адвеку іх даўжнікі,
Толькі памяць у нас кароткая.
Дзе сучасныя мужыкі?
Разам зь песьнямі валачобнымі
Адляцелі ў нябыт вякі.
Пазьвяліся ды сталі дробнымі,
Пасьпіваліся мужыкі.
Хутка толькі ў Чырвонай кнізе
Захаваюцца тры радкі:
Перад «мулам» недзе унізе
З малой літары — «мужыкі»...
Што Пэгасам лугі бяскормныя?
Дзе ж вы, вострыя языкі?
У паэтаў радкі пакорныя,
Быццам мокрыя сушнякі!
Слабаку, што аднойчы здрадзіў,
Больш ніхто не падасьць рукі.
Хто ў сучасным сядзіць урадзе?
Хопіць ручкацца, мужыкі!
Не пад дулямі аўтаматаў —
Як пад дудачку пацукі, —
Па ахвоце пайшлі ў палату
Звар'яцелыя мужыкі.
За палатную дэкарацыю
Атрымалі свае пайкі.
Не бяз згоды прайшлі кастрацыю,
Дык ня рохкайце, мужыкі!
З маскалямі хаўрус будуеце,
Як зацятыя мясьнікі.
Вы ж дзяцей для Чачні гадуеце.
Не шкада вам іх, мужыкі?
Хутка лясьне Масквы імпэрыя
І разваліцца на шматкі.
Вельмі простая бухгальтэрыя,
Без кампутараў, мужыкі.
Вам здаецца, што на пасадах вы —
Уладкуюцца і сынкі.
І абед, і кляззт урадавы...
Вось і мары ўсе, мужыкі?
Не хваліцеся кабінэтамі —
Вярухнуцца там не з рукі.
Як заложнікі пад партрэтамі,
А ці ёмка вам, мужыкі?
Пад акантамі ды багетамі,
Як прышпіленыя жукі,
На іголкі пасад надзетыя
Кабінэтныя мужыкі.
Пад абстрэлам дэкрэтаў валяцца,
Як нязграбныя кулікі,
Але ўласным балотам хваляцца.
Ці здурнелі вы, мужыкі?
Зноў кіруюць краінай згодна
Камуністы ды іх сынкі.
Беларусы заўжды лагодныя.
Не абрыдла вам, мужыкі?
Спраў няма, толькі імітацыя,
Зразумелі і «чаўнакі»:
Праз парадкі і дэкларацыі
Зноў рабуюць палітрукі.
Вальс сабачы сыграць стараюцца:
Дзеляць месцы, дзяруць смыкі.
Усё роўна не атрымаецца —
Не музыкі вы, мужыкі!
Калі дым не ляціць да коміна,
Пэўна, дрэнныя печнікі.
Ад кіслосьця заўжды аскоміна,
Што, ня ведалі, мужыкі!
Да начальства бяз мыла мыляцца
Абібокі ды лайдакі.
Сесьці ў крэслы заўсёды хіляцца
Толькі хілыя мужыкі.
Марна клізмы стаўляць з ратацыяй.
Вэртыкальныя стаякі
Не стаяць, нават з індэксацыяй, —
Радыяцыя, мужыкі!
Вам парады даваць ня рады я,
Радзіць вам — марнаваць радкі.
Усё! Канчаю здабычу радыю.
Няма рады вам, мужыкі!
Ды зьмяняецца час падзеямі —
Аджываюць сваё «саўкі».
Дацярплю, не згублю надзею я:
Пэўна зьявяцца мужыкі!
Хай плявузгае глупства радыё —
Беларускія хлапчукі
Будуць жахам для скроні ўрадавай,
Як узьведзеныя куркі!
Пабудуюць падмуркі нацыі
Пасталелыя юнакі.
Як змагацца пры акупацыі,
Не пытаюцца мужыкі!

## Аляксей Шыдлоўскі

* * *

Калі наступіць, можа, дзень такі,
Што прыйдзе час апошняга спатканьня,
Скрадзі сабе кавалачак каханьня,
Схавай яго і сьцеражы вякі.
Яно табе спатрэбіцца, калі
Аднойчы юная, прыгожая тыгрыца
Перад табою пройдзе
(не прысьніцца!) —
Тады каханьне у фужэр налі.
Дай ёй адліць і сам адведай зельля.
З напою гэтага пахмельле
З табой прабудзе доўгі час,
Пакуль ня сьпыніцца вясельле,
Ў сабе адчуеш ты ня раз
Рамантыка душой і целам.

### літаратурны сэмінар «Варштаты»

**Ігару Л.** *Пра акупацыю трэба ямчэй, граматна і па-беларуску. Як то кажуць: альбо грай, альбо іскрыпку аддай.*

**Сержуку Ш.** *Ужо было: і «сур-ветлівы» ліст на цэлюлёзнай сурвэтцы, і юначае ходаньне са старэйшымі аднакрэўнікамі... Толькі лепш спачатку даць нам якасныя тэксты, творы высокай энэргіі.*

**Крывічу.** *Замест, каб пра сябе нешта, пра таварышаў, Вы пра нелегітымнага. Ганіце паршыўца з мысьляў прэч, з душы вон!*

**Вадзіму К.** *Над мовай працаваць а працаваць!*

*«Цыцкі мну» — гэта, бадай, парнаграфія, гэта паза правіламі эстэтыкі.*

*«Варштаты»: тэорыя і практыка беларускага нацыянальна-мастацкага руху, контракультура і контраэкспансія на ўсе чатыры бакі, дасьледзіны беларушчыны і беларускага.*

Славамір Адамовіч

# ПРОЦІ НОЧЫ

***Апавяданьне***

Андрэй ДЫНЬКО

«Дзяўчына кахае органам прыкыканьня, мужчына кахае органам спазнаньня», — зазначыў ён.

«Пашляк», — засьмяялася яна.

Ён гаварыў зь ёй, як дваццацігадовы юнак гаворыць зь дзяўчынай. Яна гаварыла зь ім, як дваццацісемігадовая дзяўчына з кавалерам. Але ўжо вечарэла, і ён трохі сумеўся.

«Імя ў яе ўсё-ткі якое харошае, — думалася яму, — Клаўдзія».

Маладзіца-палешучка вываліла няспроданы за дзень шчавух у Піну і, падабраўшы вышываную спадніцу, пакараскалася на мост. Два чаўны паплылі на захад, у адным — каза. На захадзе, мо за Бугам, адкуль некалі прыйдзе вызваленьне, палымнела. Сонца сядала за хмару.

«Заўтра будзе дождж», — зь ціхай безнадзейнасьцю сказаў ён.

«Давайце яшчэ прагуляемся на прычал», — прапанавала яна, паклаўшы галаву яму на плячо.

«Калі ты сапраўды закахаўся, ты мусіш прызнацца ёй у гэтым. Але ці можна пакахаць вось так, за адзін дзень?» — пакутліва шукаў тэрміновага адказу ён, бо летняя ноч ласа завешвала вокны жыдоўскіх лавачак на рынку.

З гарадзкога саду ляцелі па-над вадою чайкі і факстрот. Два матросы ў бесказырках з ордэнамі й мэдалямі на грудзях падаліся, абняўшыся, у шынок.

«Калі напару прыйдуць амэрыканцы, адразу ажанюся», — падумаў ён, і салодкая асалода падкацілa да скуры.

«А то хадземце да мяне, — паклікала яна. — Я жыву тут побач, на Завальнай. У мяне прыўкрасны пакойчык, утульны, і ў ім дзьве канапы стаяць. Ведаеце, так нязручна, калі дзьве канапы. Лепш была б камода і канапа, а то дзьве канапы. І прыбраць іх дзе-куды ніяк нельга. І праўда, хадземце. Не ісьці ж вам у Гарадзішча на ноч гледзячы. Вы ўвогуле ўяўляеце сабе, дзе тое Гарадзішча? Гэта ж у чорта на кулічках. Ды й бабулька можа вам не адкрыць. Цяпер жа на Палесьсі неспакойна. І праўда, куды вам ісьці на ноч гледзячы?»

«Якая пекная ўсё ж украінская мова, — падумалася Севярыну. — І такая дзіўная-дзіўная. Калі брат гаварыў па-ўкраінску, здавалася, што яна падобная да беларускай, як пальцы на руках, толькі вымова іншая. А тут аказваецца, што па-ўкраінску трэба гаварыць ня «проці ночы», а «на ноч гледзячы». Праўду казаў палкоўнік Кушаль: украінская мова нашмат больш падобная да расейскай, чым беларуская».

Па пад'езьдзе было ясна, што дом нацыяналізавалі нядаўна. У пакоі стаялі фартэп'яна (ён пацягнуўся сыграць, але Клаўдзія перахапіла ягоныя рукі і завяла за сьпіну: «суседзі пачуюць») і дзьве канапы. Яны выпілі чаю з сахарынай. Севярын дастаў шматок бялюткага сала з чырвонай пераросьлінкай і — о цуд! — плітку сапраўднае ангельскае чакаляды. А насьля адрубілі электрычнасьць, і змрок дапамог. Так прайшоў першы вечар.

Севярын прыехаў у Пінск з сакрэтным заданьнем ад Беларускай Незалежніцкай Партыі з Баранавічаў. Па дапамогу. Паехаў Севярын, бо ягоны зводны брат па бацьку быў палкоўнікам Украінскай паўстанцкай арміі. Адзіным адрасам, які Севярын ведаў, быў адрас братавай цёткі. Пінск сустрэў яго ўзмоцненымі патрулямі і купкамі жабракоў-хахлоў на пэроне. Севярын быў у Пінску ўпершыню. У вакзальнай сталоўцы заставаліся два вольныя месцы. Адно побач з чарнявай кацапачкай у фуфайцы з надпісам «30 лет Велікой Октябрьской соціалістіческой революції» і другое, каля Клаўдзіі.

Севярыну сьнілася, што ён ужо жанаты і ідзе бытэньскім лесам пад руку з жонкай, а побач ідуць палкоўнік Кушаль, сэнатар доктар Станкевіч, Якуб Колас і ягоны брат, і ўсе з жонкамі, усе нясуць напагатове кулямёты. І ўсе жонкі вядуць сваіх мужоў пад ручку, а Арсеньнева Кушаля абдымае. А яму вельмі хочацца разгледзець Арсеньневу, бо ён яе яшчэ ніколі ня бачыў, але няёмка пры Кушалю й сваёй жонцы прыглядацца. Яшчэ яму вельмі хочацца, каб і яго жонка абняла, але сказаць пра гэта ёй няёмка, а сама яна трымае яго пад руку, і ўсё. І вось яны ідуць удзесяцёх, але час ад часу прыходзіцца залягаць і страляць, і чамусьці ў сэнатара доктара Станкевіча ўвесь час заядае кулямёт. Прыбягае веставы й дакладвае, што маскалі адступілі за Шчару са стратамі. Тады Кушаль дастае ў Арсеньневай вялікую чырвоную смушковую шапку і гаворыць: баец Дуброўскі, ад імя ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі й народу Беларусі ўзнагароджваю Вас гэтай смушковай шапкай. Натальля Арсеньнева запявае «Беларусь, Беларусь залатую», яе падхопліваюць жанчыны, Янка Станкевіч, Якуб Колас, песьня лунае. Толькі палкоўнік Кушаль і брат не сьпяваюць, Кушаль нахіляецца да Севярына, моцна сьціскае яго за плечы і кажа: «Я цябе як сына прашу: ніколі не здавайся». І ціха, але цьвёрда ўсклікае: «Жыве Беларусь!» «Жыве вечна» — выгуквае Севярын, хоча надзець шапку, але брат зрывае яе з галавы, кажучы: атрымаць — ня значыць мець права насіць, хоць Севярын не разумее, чаму, і трохі крыўдуе. У бліндажы ўжо паставілі на стол, можна частавацца амэрыканскай тушанінай і ангельскім чэдэрскім сырам. А чаму Вы, спадарыня Арсеньнева, дачка вядомага расейскага інжынэра, сталі пісаць не па-расейску, а па-беларуску? — пытаецца ў яе Севярын. Бо беларуская мова харашэйшая і безумоўна больш паэтычная, — адказвае за яе Якуб Колас. Геніяльнае тлумачэньне, — умешваецца Янка Станкевіч, — але Вы, Кастусю, яшчэ зусім малады, і таму недацэньваеце тое значэньне, якое можа мець для жанкі каханьне а пачуцьцёвая аддаласьць. Раптам на двары нешта пачынае страшэнна гусьці, і ўсе заміраюць.

«Што гэта?» — ускочыў ён на ложку.

«Сьпіце, дурненькі, гэта сырэна заводу «Кузлітмаш», яна будзіць работнікаў на працу».

«А вы некуды йдзеце?»

«Я мушу выйсьці па справе на гадзінку і вярнуся».

«Я таксама пайду. Дзе маё адзеньне?»

«Там, дзе вы разьдзяваліся», — засьмяялася яна. Нагавіцы й кашуля віселі на зэдліку ля фартэп'яна. Севярын пачырванеў.

«Падайце мне, калі ласка, маё адзеньне».

«А я вам кажу, ляжыце».

«Тады адвярніцеся».

«Адвярнуся, калі вы мне штосьці паабяцаеце».

«Што?»

«Што вы дачакаецеся мяне, і мы разам зварым украінскі боршч».

«Абяцаю... Вы ж абяцалі не глядзець!»

Як добра думалася Севярыну ў гэтым даўгаватым салёне, прыстасаваным пад спальню, у якім паўсюль ляжалі такія мілыя і немудрагелістыя дзявочыя рэчы — далёка ня вытанчаныя, не дарагія, а простыя дробязі дзяўчыны-работніцы. «Так, мабыць, работніцы. Мыльніца, пудра, зубны парашок. Усё беларускае, але выробленае на замову з Масквы і на патрэбы Масквы, і ўсё выканана ў гэткім гаматным маскоўскім гусьце». Ён правёў далоняй па вялікім радыёпрыёмніку. «Праводзілі індустрыялізацыю, мадэрнізацыю, але толькі такую, якая патрэбна была мэтраполіі, будавалі заводы, выводзілі новыя гатункі бульбы, але толькі для атрыманьня той прадукцыі, якой трэ было мэтраполіі, такой якасьці, якую магла спажыць імпэрыя, і па такой цане, па якой ёй трэба. Каб нельга было адарвацца ад усходняга рынку. І мы працуем у няволі на маскоўскіх паноў, як яшчэ дзяды нашы працавалі. У Беларусі ад той працы застаецца адна капейка, а ў Маскву ідзе дзевяць золатам».

«Рукі ўгору», — скамандавалі яму зь дзьвераў.

Адзін, другі, трэці энкавэдысты з наганамі.

«Божачкі мае», — прашаптаў Севярын, уяўляючы сабе, як яго вядуць вуліцамі, уяўляючы сабе свой твар — нягolены, чуб — без капелюша. А яму ўжо заломвалі за сьпіну рукі, вакол ужо мацырыліся, ужо трыбушылі валізку. «Я ж яшчэ нічога не зрабіў», — думаў Севярын, і вусны ягоныя сьціснуліся.

Спачатку яго білі проста. Ён маўчаў. Пасьля разьдзелі дагала, павесілі за рукі да калец на столі і білі палкамі па нагах. З вышыні ён заўважыў аркуш на стале са старанна выведзенымі пунктамі:

англійскі шакалад

грошы

Маскоўска-вялікалітоўскі слоўнічак — 1 экз.

Ortega-y-Gasset — 1 экз.

Гарадзішча.

Пасьля яго павесілі дагары нагамі, гасілі аб яго запалкі, плявалі на яго, білі па самых балючых месцах, аж покі ён ня страціў прытомнасьці. Ачнуўся ён на жалезным ложку, прыкуты рукамі, нагамі і шыяй, мокры. «Шакалад. 10 тысяч рублёў. Вялікалітоўскі слоўнічак. Артэга-і-Гасэт. Гарадзішча».

«Толькі Клаўдзію не падумайце чапаць, мы пазнаёміліся зь ёю ўчора ў сталоўцы, яна нічога ня ведае, а я прыехаў шукаць працы на заводзе «Кузлітмаш».

«У такім выпадку будзем заганяць іголкі пад пазуры. Спачатку пад мезены, апошнюю — пад вялікі. Вось 10 іголак. Мезены меней балючы, вялікі — самы балючы. Шакалад. 10 тысяч рублёў. Вялікалітоўскі слоўнічак. Артэга-і-Гасэт. Гарадзішча». Вось як яны заганяюць іголкі пад пазногці: ён хапае ягоны палец сваёй тоўстай кляшнёй, бярэ іголку ў другую руку. Вось яно як проста. Севярын хацеў бы страціць прытомнасьць, але ня страціў. Ён крычаў нешта: адрасы, абы-што пра крадзёж, пра сталоўку, пра Клаўдзію, якая яго ня ведае. Яны запісалі адрасы і паехалі. Севярын застаўся ляжаць прыкуты, і сьвядомасьць ніяк не пакідала яго, наадварот, ад холаду жалезнага ложку з носу пацякло.

Праз тры гадзіны прыехалі з машынкай-косьцедрабілкай. «Ты зманіў». І ўсе іголкі — мэтадычна. Ён нарэшце страціў прытомнасьць.

Супрацоўніца Клаўдзія назірала праз вочка і ўсё бачыла. Ён прыгожы, гэты Севярын, ён прыгожы, калі пад ударамі сьціnаецца там на кольцах. Праз яе рукі прайшоў не адзін дзясятак наведнікаў сталоўкі, але гэты занадта прыгожы, каб памерці. Дый наўрад ці ў нечым асабліва вінаваты, — кніжкі чытае, гандлюе на таўкучцы, верагодна. Тыя, зь лесу, што забіваюць расейцаў, зусім не такія.

Яна прыйшла выпусьціць яго ўвечары, калі ўсе начальнікі пайшлі на абласную партканфэрэнцыю, прынесла адзежу і адчыніла вакно, праз якое ён мог выскачыць на двор. Яго так і пакінулі прыкутым да ложку. Адмыкуўшы кайданкі, яна палашчыла яму грудзі. Цяпер гаварыла па-расейску.

«Бяжы, — сказала Клаўдзія, — скачы ў вакно й бяжы. Зьнікні з гораду за ноч, растварыся. Толькі калі-небудзь адведай мяне зноў».

Севярын недаверліва адзеўся і гэтак жа недаверліва на жалезнай катавальні задушыў яе. Ён чытаў, што мужчыны на шыбеніцы перажываюць апошнюю асалоду, але ён мала чытаў пра жаночую фізыялёгію.

І ён пабрыў, трымаючыся за платы. Калі ў яго за сьпінай выбухнула нешта магутнае і неба азарылася багровым полымем, ён спачатку падумаў: «Вось і канец» — а пасьля, калі ўбачыў, што гэта не за ім: «Галюцынацыі. Толькі б ня ўпасьці на відным месцы». Так прайшоў другі вечар.

Назаўтра Севярын ляжаў пад высозным клёнам на мяккім сене, засьцеленым бялюткім ільняным палатном.

«Браце мой, каб ты быў байцом нашай арміі, я б аддаў загад расстраляць цябе за самавольства пад час выкананьня заданьня, — брат стараўся гаварыць не як брат, а як камандзір, але яму гэта цяжка давалася, бо вось былі яны, проста перад ім былі ягоныя собскія пальцы, пазногці на якіх пачарнелі амаль у тым самым веку, у якім цяпер быў Севярын, толькі клопатам не НКВД, а дэфэнзівы, і голас маладога палкоўніка сам сабой мякчэў. — Мы ўчора падарвалі іхны абласны партсход. Ушчэнт. Лічы гэта помстай за сябе», — шырокая шаршавая братава далонь легла да Севярына на лоб.

Байцы-паўстанцы на паляне дачышчалі зброю і ўсё часьцей пaглядалі ў бок кухні, адкуль ветрык даносіў дразьлівы дух бараніны. Нястройныя вечаровыя цені цягнулі свае хцівыя пашчы. Севярын прыкусіў губу, але й гэта не ратавала. Брат заўважыў і схаваў Севярынавы вочы пад сваёй вялікай далоняй.

«Ня трэба, брацiку, ня трэба. Нас жа болей, чым іх. І з намі лес. Галоўнае, не варушы пальцамі. Ня трэба, брацiку, ня трэба. Я цябе пакармлю з лыжкі, як малога. Як васямнаццаць гадоў таму. Толькі з чаркаю гарэлкі. Ня трэба, брацiку, ня трэба. Мы перамагаем. Мы ўжо перамаглі».



Фота невядомага аўтара, 1951 год.

# ВОРСКЛА

Генадзь САГАНОВІЧ




Того же лета бысть знамение на небеси в солнце
*Ніканаўскі летапіс*

Роўна шэсьць стагодзьдзяў таму самы слынны ў нашай гісторыі вялікі князь пацярпеў самую жудасную паразу. А быў так упэўнены ў перамозе!

Зачараваны сваёй уладай, акрылены посьпехамі, у 1399 годзе Вітаўт надумаў ісьці на ўладара цэлае Азіі — хана Тамэрлана. Нават рымскі папа Баніфацы IX, вітаючы Вітаўтаву ідэю, абвясьціў крыжовы паход на Залатую Арду. У Вялікім Княстве цэлы год рыхтаваліся да выправы, зьбіраючы сілы з усіх земляў. Прыслаў дапамогу Нямецкі ордэн, прыйшлі палякі, валахі, урэшце — Тамэрланаў вораг і Вітаўтаў саюзьнік хан Тахтамыш.

Невядома, колькі праўды было ў летапісцаў, што ўставілі пазьней у вусны вялікага князя бязьмернае выхваленьне: «Пойдзем, палонім зямлю татарскую! Пасадзім на Ардзе на царства Тахтамыша, а ён нас пасадзіць на ўсёй Рускай зямлі!»

Вітаўт знайшоў татарскую арду ажно на Ворскле. Яе ўзначаліў ня сам Тамэрлан, а хан Цімур-Кутлук (заходнія крыніцы цьвердзяць, што гэта быў Эдыгей). Тры дні ціхая плынь разьдзяляла вялізныя, гатовыя да сечы арміі. Калі верыць летапісам, дык хан Цімур-Кутлук спужаўся Вітаўтавай сілы і сам ініцыяваў перамовы, каб дачакацца падмогі — згаданага Эдыгея з крымскімі татарамі. Але Длугаш і Стрыйкоўскі падаюць, што наадварот, гэта Вітаўт адразу пабачыў, наколькі саступае татарам, і завагаўся. Так ці інакш было насамрэч — для лёсаў ягонага войска гэта ня мае значэньня.

На перамовы да хана паслалі кракаўскага ваяводу Спытку. Яшчэ можна было замірыцца, яшчэ маглі разысьціся, выйсьці з чужога стэпу. Але татары ставілі свае ўмовы і зацягвалі час. А маладыя ліцьвіны гарэлі прагай бітвы й слухаць не хацелі пра вяртаньне безь перамогі. Іх дух натхняў і Вітаўта, поўнага веры, што хрысьціян сам Бог зьберажэ ад паганых.

У аўторак, 12 жніўня, перад самым вечарам татары ўзялі ініцыятыву ў свае рукі. Выходзіць, усьведамлялі сваю перавагу, чуліся больш упэўненымі. Лёгкая коньніца Эдыгея перайшла Ворсклу і атакавала. Вітаўтава войска сустрэла паганых агнём самастрэлаў і ручніцаў, а потым схапілася ў сечы. Ліцьвіны спачатку моцна націснулі татараў і ўжо пачыналі перамагаць, але... Паводле летапісу, «прысьпеў цар Цімур-Кутлук зь вялікаю сілаю татарскаю і абышоў іх кругом». Ён перапраўіўся праз Ворсклу і ўдарыў на ліцьвінаў з тылу.

Першым кінуўся ўцякаць Тахтамыш, які мусіў бараніць абоз. Пабачыўшы благі канец, стаў ратавацца і Вітаўт. Уцёк «з малой дружынай». Астатнія палеглі, склалі свае галовы ў Дзікім полі. Дванаццаць князёў зь Беларусі і Літвы, ордэнскія рыцары, польскі дапаможны аддзел, а галоўнае — уся армія, так старанна зьбіраная ў нашых землях. Па найсьціплейшых разьліках — ня меншая за 10—15 тысячаў!

На плячох уцекачоў у Вялікае Княства ўляцела арда Цімур-Кутлука. Атрымаўшы выкуп з Кіева, татарскія загоны ўзяліся рабаваць увесь безабаронны край. «І многа зла ўтварыў Цімур-Кутлук зямлі Літоўскай», — натаваў тады ці ня кожны летапісец.

Катастрофа працьверазіла Вітаўта, разбурыла яго далёкасяжныя пляны. Замест незалежнасьці Вялікага Княства, абвешчанай на Саліне за год да Ворсклы, давялося пагаджацца на невыгодныя ўмовы уніі з Польшчай. Хоць па якім часе яго ўлада зноў стала мацнець, а дзяржава — набіраць міжнароднае вагі. Ведаем, што Вітаўт панаваў далей, бышцам і не было той заведзенай у нябыт вялізнай арміі, таго сьмяротнага поля на Ворскле. Але ня ведаем, чым абярнулася гэтая авантура для краю.

Ворскла і праз шэсьць вякоў намі ня толькі не асэнсаваная, яна нават як сьлед не пазнаная. Адно скупы радок летапісу вяртае да таго, што давялося перажыць Беларусі: «А в земли Литовской бысть тогда скорбь и сетование, и плачь многи, и людей оскудение велие». ■

Наша Ніва 90 гадоў таму

# Аб нашых плытніках

Пачынаючы ад м. Пясочна Ігуменскага павету па Нёмане ляжыць цэлы рад мястэчак — Могільна, Стоўпцы, Ярэмічы, Любча, Дзяляцічы і іншыя «берагі», дзе звозяць лес, а нашы беларусы вяжуць яго ў плыты і гоняць да Коўна; адтуль варочаюцца назад чыгункай і ізноў гоняць плыты. За лета часамі ўдаецца так зьвярнуцца 3—4 разы.

Плыты выпраўляюць так званымі «сотнямі», сотня мае ад 5 да 15 плытоў; кожны плыт зьвязваюць з 5—30 «лавак» — паводлуг таго, якое дзерава, з каторага зьбіты лаўкі. На кожную сотню ставіцца «рэтман» — як бы капітан; выбіраецца на гэта спрытны плытнік. На сваёй чайцы ён едзе заўсягды ўперадзі, аглядае раку, каб не напасьці «на гак» (мелкаводзе). Бярэ ён, як і плытнік, рублёў 40, ды апроч таго 3—5 руб. ад плыта. На плыт становіцца па двое людзей: галоўнік і заднік. Калі прымае сотня ад купца плыты, то пішуць кантракт.

У Віленскай губэрні варункі плытнікаў лепшыя, бо народ тут бойчэйшы. На кожны плыт выдаецца харчу на дзьве душы на месяц: у тым 4 пуды хлеба, 16 фунтаў сала, 8 гарцоў круп, 8 гарцоў гароху, 1 гарнец солі. Калі вецер дзе-небудзь прыдзяржыць даўжэй плыты, то рэтман мае запіску ад купца і бярэ харчы па дарозе на павер — на рахунак купца. Але з гэтым усяляк бывае. Адзін раз сотня з в. Ляхавічы Ўселюбскай воласьці Навагрудзкага павету гнала плыты купца Моткі П-іна; каля м. Прэны пад Коўнам у іх выйшлі харчы, але на павер ім не далі, кажучы, што Мотка П. ня плоціць ніколі. Наша сотня пачала жабраваць, каб не памёрці з голаду. Сабралі так 40 к. і галодныя плылі да Коўны.

**Плытнік., м.Любча Навградзк. пав.**

## прыватныя абвесткі

**Патрабуецца няня** для дзіцяці 10 мес. Дагляд з 9 да 18. Р-н вул. Волаха. Заробак 40 у.а. Тэл. 256-97-19, пасьля 18 гадзін

Спраўны мужык **пазнаёміцца з кабетай** для сур'ёзных дачыненьняў. Узрост — 25-35. Калі не засмучае, што я пакуль зьняволены, лістуйце, не пашкадуеце! Міпасў Вячаслаў Міхайлавіч п/с 35/4, вул. Кальварыйская, 36, Менск, 220079

**Бухгальтар**, 34 гады, свой кампутар, шукаю прыстойную працу. Тэл.: 235-52-37. Вул. Даўгабродзкая, 4-29

**Электрарухавік** ПІН ДТ 75, 75 Вт. **Прадаю** танна. 220086, Каліноўскага 28-48

**Куплю кнігу** С.Юркевіча «Чароўны сьвет тэатру лялек». 220050, Менск, а/с 512, Алене

**Куплю** «Красное колесо» А.Салжаніцына, усе тамы, зборнікі беларускіх прыказак, прымавак, фразэалягізмаў, выслоўяў. Заплачу добрыя грошы. Тэл. 227-78-92

**Шукаю сяброў** для ліставаньня, люблю NRM. Мне 13. Усім прывітаньне! Бабкова Ганна. Менск, вул. Волаха 45-31, тэл. 256-21-67

**Куплю першы том** збору твораў Купалы. Тэл. у Віцебску: 36-39-57 (будні з 9 да 14). Юры

**Беларускія кнігі й касэты** ў Горадні. Маркса 11, панядзелак і серада, тэл. 72 11 83

**Лепшую сяброўку Ірынку** віншую з Днём народзінаў. Шчасьця, каханьня, аптымізму. Мы пераможам! Жыве краіна крывавых дажджоў! Жыгімонт Юльля

**Ёшку (Дзюдзюкалу Барбідонскую)** віншую з Днём народзінаў! Зычу болей «нашаніўшчыны» ў рэальным жыцьці. Я.

**Запрашаем на набажэнствы** штонядзелю а 17 гадзіне ў беларускую царкву. Менск, Любімава 21-56. Тэл.: 2708-987

**Сымпатычны хлопец** (23) шукае надзейнага сябра ад 18 да 35 гадоў. Большасьць маіх сяброў зьехала за мяжу. Захапленьняў шмат: музыка, вандроўкі, проза. 220073, а/с 187, Менск

Калі Вы маеце цікаўнасьць да газэты **«Наша ніва іесьцінная»,** вышлеце на адрас: а/с 169, 220030, Менск — купон б/а ды капэрту і атрымаеце гэтае выданьне бясплатна

Калі Вы жадаеце атрымаць газэту БНР **«Радавая Беларусь»,** дашліце 20 000 + купон б/а і капэрту на адрас: а/с 169, 220030, Менск

Спадару **Антосю Ўсовічу**! Ісьціна мацнейшая за Праўду! Рэдакцыя газэты «Наша ніва ісьцінная»

Спадару **Ўладзімеру Аніськевічу**! Ліст, дасланы ў газэту «Слова нацыі» на адрас газэты «Радавая Беларусь», — гэта памылка. Перашліце яго ў слушным кірунку

**Ярмошыну Ўладзімеру**. Мілы браце! У чужой хаце Не нажыць табе багацьця. Якуб Колас

Вы таксама будзеце жыць, калі будзеце сьпяваць свае песьні! Прывітаньне Марыі. **Жыве Гесьціца**! Р.

**Хлопец** (23) шукае надзейнага сябра ад 18 да 35 год. Пра сябе: сымпатычны, з гумарам, в/а. 220073, а/с 187

**Нават калі савецкі** чалавек пераверне цца ў шчырага беларуса, ён усё роўна ўнутры застанецца савецкім. Гэта неўміруча, як першабытнасьць. Вячаслаў Мілкоўскі

**У вярхох БНФ**, як і ўсюды, — два крылы: больш і менш радыкальнае. Пасьля 20 ліпеня, пад уплывам новых умоваў, яны сталі актыўна дрэйфаваць — кожнае ў свой бок. Час, мусіць, якраз патрабуе значнага радыкалізму. Таму БНФ як стыхійны рух, а не вайсковае злучэньне, будзе зважаць на адпаведнае крыло. Але ўсё ж такі не вярхі сіла, а сам рух. Вячаслаў Мілкоўскі

**Шукаем кантактаў** зь беларускімі паганцамі. 220082, Менск, а/с 188

**Мне ўжо амаль 24**. Сымпатычны, у мяне шмат сяброў за мяжой, а ў Беларусі мала. Патрэбны сябра ад 18 да 35. 220073, а/с 187

**Набывайце** «Намэнклятуру» і здавайце ў макулятуру. Сьвятлана Канановіч

**Прапануем в/а працу** ў хаце (250 у.а.). Гэта Вы можаце! Укладзіце 2 капэрты са зв/а + купон б/а: 220089, Менск-89, а/я 122

**Газэта прымае таксама абвесткі большым шрыфтам за невялікую плату**
*— да 20 словаў — **50 000** руб., звыш 20 словаў — **70 000** руб.;*
*— па-мастацку аформленая аб'ява **20 000** руб. за 1 кв. см.;*
*— па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **40 000** руб. за 1 кв. см.*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку бланка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

**ШУКАЮ АДНАДУМЦАЎ З ПАГАНСКІМ СЬВЕТАПОГЛЯДАМ**
Хвала старажытным Беларускім Багам!
*225710, г. Пінск-4, а/с 57*



**Віншую Эльвіру Сяркову з днём народзінаў. Зычу здароўя і посьпехаў у працы.**
*Сын Андрусь*







НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ
Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537
Тэкст ____
Імя і прозьвішча ____
Адрас, тэлефон ____

## паштовая скрынка

**Аляксандру А.** зь Менску. *Не відаць людзей за самалётамі.*

**Г.Т.** з Гомеля. *Лепш без усялякіх прамых алюзіяў і агітацыі — паралелі і так ясныя. Лепш выйшла б у форме скупога апавяданьня гісторыка. Бо так атрымліваецца, як для «Народнай волі» ці «Навінаў».*

**Яўгену С.** зь Пінску. *Шкода, што спазьніліся, бо ў Вас добра выйшла. Неўзабаве ў Палескім музэі будзе добрая міжнародная канфэрэнцыя, напішыце нам пра яе. «Мінак» азначае «чалавек на дарозе», «чалавек на вуліцы», «праходны чалавек», «праходны», «праходжы», «passer-by», «чалавек, які йдзе некуды ля нечага». Слова «мінак» узьнікла нядаўна, і, хаця ўжо замацавалася ў літаратурнай мове, успрымаецца яшчэ як штучнае, хоць і адпавядае фармальнай словаўтваральнай лёгіцы мовы (параўнайце: дзівак, сьпявак). Таму Вы й разумелі яго як «жыхар гораду». Калі Вы спытаецеся ў сваёй бабулі, прыкладам: «Хто Вам гэта сказаў?» — яна Вам сапраўды адкажа: «А, адзін чалавек на вуліцы», а не «адзін мінак». Ёсьць у «мінаку» гэтая штучнасьць. Але сяму-таму менавіта гэта й падабаецца.*

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.
Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2811. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 22:55, 05.09.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 4544. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.